НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 43 (784) 21 лістапада 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Што лечаць у лабараторыі сну?

Дыягностыка — 922 тысячы, супрацоўнікам Кіраўніцтва справамі прэзідэнта — ільготы. Старонка 7.



## Кухар «Камяніцы» дзеліцца сакрэтамі

«Што б ні прапаноўвалі, а беларус будзе выбіраць боршч». Старонка 9.



# Залатыя часы

**Гадзіннік Мясніковіча** каштуе 37 тысяч даляраў. **Старонка 2.**



АНТОН МАТОЛЬКА

Тэндэнцыі

## Сілавікоў чакаюць скарачэнні і падвышэнне заробкаў

Скароцяць **КДБ, МУС, Следчы камітэт.**

20 лістапада кіраўнік дзяржавы сустрэўся з новым старшынёй Следчага камітэта Валянцінам Шаевым. Таксама прысутнічалі дзяржсакратар Рады бяспекі Леанід Мальцаў, старшыня КДБ Валерый Вакульчык і генеральны пракурор Аляксандр Канюк.

Сярод іншага пайшла гаворка пра скарачэнне колькаснага складу камітэта. «Першыя месяцы работы Следчага камітэта паказалі неабходнасць карэкціроўкі колькасці і структуры гэтага камітэта», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Ён асабліва падкрэсліў, што сродкі, якія вызваляюцца ў выніку скарачэнняў, павінны заставацца ў распараджэнні ведамства. Значыць, заробкі ў ведамстве вырастуць. Магчыма, некаторыя сілавікі сёння не задаволеныя тымі грашыма, што атрымліваюць.

«Ці то КДБ, ці пракуратура, Следчы камітэт або міліцыя — грошы павінны застацца на развіццё гэтай структуры і для павышэння грашовага забеспячэння супрацоўнікаў».

Раней Лукашэнка гаварыў тое самае на нарадзе ў МУС. А на прадстаўленні Вакульчыка ў КДБ зазначыў, што спецслужба павінна быць скарочаная ў шмат разоў.

**Зміцер Панкавец**

Працяг тэмы — старонка 4.

Палітыка

## Вакульчык — гэта Зайцаў у квадраце

Прызначаны новы старшыня КДБ. Пяць фактаў пра яго. **Старонка 3.**



Грамадства

## Якое малако мы п'ём?

Ці нармальна, што каровы ходзяць па чэрава ў жыжцы? **Старонка 7.**



Стыль

## Туфлі трох багатыроў: Мясніковіч, Тур, Снапкоў

Колькі каштуе абутак найвышэйшых асоб. **Старонка 8.**



Здарэнні

## Беларускія праграмісты разбіліся каля Лодзі

Трое загінулі, дзіця пры смерці. **Старонка 10.**





Барак Абама,
кіраўнік ЗША
200$



Браніслаў Камароўскі,
кіраўнік Польшчы
220$



Аляксандр Лукашэнка,
кіраўнік Беларусі
17000$



Дзмітрый Мядзведзеў,
прэм'ер-міністр Расіі
32000$



Міхаіл Мясніковіч,
прэм'ер-міністр
Беларусі 37000$



Патрыярх
Кірыла
38000$



Уладзімір Пуцін,
кіраўнік Расіі
49000$



Віктар Януковіч,
кіраўнік Украіны
160000$

# Гадзіннік Мясніковіча каштуе $37 тысяч

Гэта ўдвая **даражэй** за гадзіннік Лукашэнкі.

Гадзіннік, з якім прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч прыйшоў на Беларускі інвестыцыйны форум, сфатаграфаваў журналіст і блогер Антон Матолька.

«І што вы думаеце? Гэта швейцарскі Girard-Perregaux Vintage 1945. Калібр GP 3300, ружовае золата. Калекцыя 2011 года. Выдатны выбар, так, — іранізуе блогер Малішэўскі. — І кошт нішто сабе. Такі я ў Мінску знайшоў у краме на Камсамольскай, каштуе ён у нас 317 796 800 рублёў. Не самы, дарэчы, дарагі ў той краме», — дадае ён.

Калі пералічыць у даляры, выходзіць больш за $37 тысяч.

Гэта ўдвая даражэй за гадзіннік Patek Philippe Calatrava 5120j, які належыць Аляксандру Лукашэнку.

Праўда, да мільянера Юрыя Чыжа яму ўсё адно далёка. Той носіць гадзіннік, даражэйшы за $400 тысяч.

Мяркуючы па здымках на ўрадавым сайце, Girard-Perregaux Vintage 1945 — не адзіны гадзіннік прэм'ер-міністра. Ён мае і іншы.

Прэс-служба прэм'ер-міністра ніякіх каментароў з гэтай нагоды пакуль не давала.

**Вучыся, нябожа!**

## 8-ы ўрок

У школах змены: **ізноў кампанейшчына**.

Ні года без зменаў! Пад такім дэвізам даводзіцца працаваць педагогам. Вось і сёлета чарговыя.

Увялі трэці ўрок фізкультуры. Раней было толькі два на тыдзень. Прычым зрабілі тое дадаткова, ужо калі расклад заняткаў быў сфармаваны. Гэты ўрок стаў у многіх класах 8-м. У выніку ў многіх дзяцей ён перакрываецца з заняткамі ў музычнай школе, гуртках. Дзеці ў гэты дзень запозна абедаюць...

І што, пытаюся сына, усе ходзяць на гэты ўрок? Не, некаторыя прапускаюць, кажа ён.

Здаецца, у такой форме новаўвядзенне не дадае дзецям здароўя.

Як жа дабіцца, каб дзеці болей рухаліся?

Два выхадныя вельмі карысныя для адпачынку дзяцей і каб яны прывучаліся да хатняй працы. У той жа час увядзенне другога выхаднога ў свой час прывяло да скарачэння школьных праграм, а гэта пагражае ведам. Выйсцем магло б стаць падаўжэнне навучальнага года на чэрвень. Або падаўжэнне навучальнага дня. Але ў апошнім выпадку трэба прадумаць вялікі, можа быць нават гадзінны, перапынак на абед і адпачынак, пасля якога заняткі працягваліся б.

Дарэчы, у французскіх сярэдніх школах і ў чэрвені вучацца, і абед з 12 да 13 — гэта святое.

**Мікола Бугай**

## Украінка ў інвалідным вазку знялася для мужчынскага часопіса

Нетыповая мадэль прызналася, што зрабіла гэта **дзеля добрай справы**.

Фота з аголенай кіяўлянкай распаўсюдзіў у лістападзе адзін мужчынскі часопіс.

«Я гэта рабіла не для свайго піяру і не для таго, каб спакушаць мужчын. Жанчыны з інваліднасцю заслугоўваюць увагі, і яны нічым не горшыя за іншых жанчын», — кажа нестандартная мадэль.

Тры гадзіны здымак Юля правяла пад адкрытым небам у кіеўскім музеі Пірагова. Дзяўчына ўпершыню ў жыцці пазіравала без бялізны.



Юля не ходзіць ўжо шэсць гадоў — пасля таго, як у ДТЗ атрымала пералом хрыбетніка. Пра мінулае дзяўчына не хоча згадваць. З тых часоў яе жыццё кардынальна змянілася. Юля развялася, узначаліла фонд для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, пачала шмат падарожнічаць. А нядаўна дзяўчына перамагла ў конкурсе прыгажосці для жанчын з інваліднасцю.

Калі ж ёй прапанавалі раздзецца перад камерамі, Юля вагалася два дні, хвалявалася, што падумаюць блізкія. Раілася яна толькі з жаніхом Вадзімам. Пара разам ужо два гады. Як прызнаўся Вадзім, ён учынкам каханай ганарыцца. Аднак на пытанне, ці зможа Юля ў будучыні агаліцца перад камерай цалкам, пара адказвае: не.

Юля верыць, што яе прыклад прымусіць сябровак па няшчасці змяніць стаўленне да праблемы, а значыць і жыццё — да лепшага.

**ЗП**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazu дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

**Варта мець**

**Беларускія календары на 2013 год**

Таварыства беларускай мовы выпусціла 6 розных календароў на 2013 год. Кожны з іх — з выявамі адна-го з беларускіх замкаў. Здабыць іх можна на сядзібах таварыства. Акрамя таго, Гродзенская абласная арганізацыя ТБМ выпусціла перакідны каляндар.

**Сцісла**

**Алкаеў: Сівакоў дае сігнал**

16 лістапада ў інтэрв'ю газеце «Прессбол» Юрый Сівакоў заявіў, што нясе віну за зніклых палітыкаў. На пытанне «У чым вас найбольш папракаюць?» Юрый Сівакоў сказаў наступнае: «Любы цвярозы чалавек, які са мною ніколі не сустракаўся, а ведае пра Сівакова толькі на слых, звязвае гэтае прозвішча са зніклымі палітыкамі. Ну што ж... Я за гэта адказваю, мая віна ў гэтым была, ёсць і будзе».

Былы начальнік Мінскага СІЗА Алег Алкаеў мяркуе, што заява Сівакова — сігнал для замежных палітыкаў, «а таксама намёк на тое, што з гэтага моманту любыя замахі на ягонае жыццё трэба разглядаць толькі як сродак ліквідаваць важнага сведку». «Трэба падумаць пра дапамогу гэтаму чалавеку. Я ведаю, што для яго гэта быў цяжкі выбар, але і цаню тое, што ён знайшоў у сабе сілы зрабіць правільны крок», — сказаў Алкаеў.

Захаранка, Ганчар і Красоўскі зніклі ў 1999 годзе.

**Адзін трымаў, другі гвалтаваў**

Жахлівыя падрабязнасці забойства 13-гадовай школьніцы ў Столінскім раёне **чытайце на nn.by**.

**СГ**

**Цытата дня**



**Міхаіл Русы:**

Што такое беларускі селянін сёння? Ён мае прасторны дом, замежны легкавік і ўласны трактар, а таксама адпачывае з сям'ёй на курорце.

**Віцэ-прэм'ер у інтэрв'ю газеце «Звязда»**

**Самае чытанае на nn.by за 14—20 лістапада**

1 Пад Лоддзю разбіліся праграмісты з EPAM-systems: мелі білет на самалёт, паехалі машынай

2 Каровы тонуць у гноі?

3 «Хартыя-97» адрэтушавала Лукашэнку — фота

4 Любімыя афарызмы беларускай тусоўкі

5 «Не бывае нармальных людзей, у якіх машына даражэйшая за 20000$»?

6 Туфлі трох багатыроў: Мясніковіч, Тур, Снапкоў — фотафакт

7 Пяць фактаў пра таямнічага Валерыя Вакульчыка

8 Пяць фактаў пра Паўла Латушку

9 Porsche Cayenne насмерць збіў 9-гадовага хлопчыка

10 Трое загінулі, дзіця пры смерці — беларусы разбіліся каля Лодзі

# Вакульчык — гэта Зайцаў у квадраце

Новы **старшыня КДБ**.

Вакульчык кіраваў Следчым камітэтам ад часу яго заснавання, з 24 кастрычніка 2011. Да гэтага, з мая 2008, ён узначальваў Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце.

47-гадовы Вакульчык стаў адным з першых ураджэнцаў Беларусі на чале вялікай сілавой структуры. Ён мае рэпутацыю законніка. На ягоны час працы ў Аператыўна-аналітычным цэнтры прыпала прыняцце нормаў, што рэгулююць інтэрнэт. Яны былі даволі прагрэсіўнымі і не абмежавальнымі.

Цяпер ужо можна смела казаць, што Зайцаў не вернецца на сваю пасаду. Дарэчы, менавіта Вакульчыку і генпракурору Канюку даверана правесці расследаванне па «справе Зайцава».

І вось кіраўнік Следчага камітэта сядае на месца таго, каго правяраў.

У панядзелак Аляксандр Лукашэнка прадставіў новага кіраўніка КДБ падначаленым. Сярод іншага ён сказаў, што «Вакульчык — гэта Зайцаў у квадраце». Таксама кіраўнік дзяржавы адзначыў, што, звальняючы Зайцава, ён прыслухаўся да сярэдняга звяна работнікаў КДБ.

«У першую чаргу прычына адстаўкі — гэта нездаровая маральна-псіхалагічная абстаноўка, якая склалася ў асобных падраздзяленнях КДБ. Яна выкліканая недахопамі ў арганізацыі як кадравай, так і ідэалагічнай працы, а таксама перакос пры гарантаванні ўласнай бяспекі», — заявіў Лукашэнка.

«Тым не менш, яшчэ раз хачу падкрэсліць, калі хтосьці думае, што Зайцаў — гэта дрэнны і нягодны для КДБ чалавек... Можа, ён і нягодны, але не таму, што ён дрэнна служыў. Ён па-свойму разумеў свае задачы. Больш за тое, ён разам з вамі вырашаў гэтыя задачы, і на асобных кірунках вельмі эфектыўна», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

### Латушка ў Францыю

Латушка трапіў ва ўрад з пасады пасла ў Польшчы на хвалі «адлігі» 2008–2010 гадоў. Яму ўдалося да пэўнай меры змяніць палітыку ў сферы культуры. Цяпер лічба беларускамоўных міністраў ізноў апусцілася да нуля.

Лукашэнка, дарэчы, даручыў Латушку ў Парыжы пераняць досвед Сацыялістычнай партыі Францыі, якая нядаўна прыйшла да ўлады. Нейк ужо гаварылася, што «Белая Русь» таксама можа ператварыцца ў «сацыялістычную».

Найбольш верагоднай кандыдатурай на замену Латушкі выглядае рэктар Універсітэта культуры Барыс Святлоў.

**ЗП**




Лукашэнка прадстаўляе Вакульчыка кіраўнічаму складу КДБ.

**Барыс Святлоў**



Рэктар Універсітэта культуры. Атрымаў пасаду пасля смерці Ядвігі Грыгаровіч. Ён таксама беларускамоўны, прынамсі, часта выступае на роднай мове. Кандыдат філасофскіх навук. Разглядаецца як найбольш рэальны прэтэндэнт на месца міністра культуры.

**Валянцін Шаеў**



Новы старшыня Следчага камітэта. Беларус. Нарадзіўся ў Віцебскай вобласці. Быў пракурорам Расонскага раёна. Пазней працаваў пракурорам Гомельскай вобласці, адкуль атрымаў запрашэнне ў цэнтральнае кіраўніцтва Следчага камітэта.

## Пяць фактаў пра таямнічага Валерыя Вакульчыка

### 1. Беларус

Генерал-маёр юстыцыі Валер Вакульчык, у адрозненне ад многіх іншых сілавікоў, заўжды трымаў сябе ў цяні, нідзе не піярыўся, не выходзіў на першыя ролі. Рэдкія ягоныя прэс-канферэнцыі, яшчэ радзейшыя інтэрв'ю. Вядома, што ён нарадзіўся ў Брэсцкай вобласці. Рэдактарка «Хартыі-97» Наталля Радзіна кажа, што Вакульчык яе зямляк — з вёскі Радастава ў Драгічынскім раёне, гэта самая мяжа з Украінай. Вакульчык скончыў вышэйшыя курсы вайсковай контрразведкі КДБ. А перад гэтым Харкаўскае гвардзейскае вышэйшае танкавае вучылішча.

### 2. Аператыўна-аналітычны цэнтр

У структуры органаў дзяржбяспекі Валер Вакульчык праходзіў ад 1991 года, але ўпершыню ягонае прозвішча прагучала толькі ў 2008. Тады пры Лукашэнку была ўтвораная новая спецслужба, якую ўзначаліў Вакульчык. Палохалі, што менавіта Аператыўна-аналітычны цэнтр будзе займацца палітычнымі справамі. Але, прынамсі, наўпроставых сведчанняў, што ААЦ займаецца ціскам на іншадумцаў, не было. Размяшчаўся Цэнтр у будынку КДБ, дарэчы.

### 3. Інтэрнэт

Менавіта ААЦ была даверана я распрацоўка ўказа «Аб мерах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегмента сеткі Інтэрнэт». Указ выйшаў у «прыгожай абгортцы», як сказаў тады палітычны аналітык Класкоўскі. Нейкі час пад забарону траплялі «Хартыя-97», «Беларускі партызан» і блог Яўгена Ліпковіча, але гэтыя сайты па-ранейшаму даступныя карыстальнікам у Беларусі. У дзень прэзідэнцкіх выбараў былі выключаныя незалежныя сайты, фэйсбук, Gmail. Але падобнае рабілася і да згаданага ўказа. Яшчэ цікавыя задачы ААЦ заключаліся ў забеспячэнні абароны сайта Лукашэнкі, а таксама правядзенні экспертыз розыгрышаў латарэяў.

### 4. Нехта не любіць, нехта недалюблівае

«Вельмі важна, што ў сілавых структурах вы карыстаецеся заслужанай павагай. Хтосьці вас не любіць, хтосьці недалюблівае, але толькі з адной прычыны: праз вашу сумленнасць і прынцыповасць. Вы маеце ўваход ва ўсе структуры, карыстаецеся падтрымкай і даверам прэзідэнта», — такой высокай ацэнкі Вакульчык заслужыў ад Лукашэнкі.

### 5. Таксама з памежнікаў

Вакульчык, як і былы старшыня КДБ Зайцаў, і Рачкоўскі, і Віктар Лукашэнка, таксама прыйшоў з памежнікаў, да ААЦ ён быў начальнікам вайсковай контрвыведкі памежных войскаў. А яшчэ раней працаваў асабістам у Брэсцкім пагранатрадзе. Ягоны ўзлёт якраз і звязваюць з імёнамі Віктара Лукашэнкі і Рачкоўскага. Паводле некаторых звестак, у свой час Вакульчык перанёс цяжкую хваробу, якая нават пагражала яму камісаваннем. Але афіцыйных пацверджанняў гэтаму няма: інфармацыю публікаваў толькі «Беларускі партызан».

**Зміцер Панкавец**

## Пяць фактаў пра Паўла Латушку

### 1. Самы малады

Быў самым юным міністрам і ўвогуле наймалодшым сярод топ-чыноўнікаў. Заняў пасаду ў 36 гадоў. Ён быў і адзіным беларускамоўным міністрам — ад маладосці, не толькі на пасадзе, — хаця на нарадах у Лукашэнкі, якія паказвалі па тэлебачанні, гаварыў па-расейску.

### 2. Жыве ў Ждановічах

Мала хто ведае, што Павел Латушка жыве ў Ждановічах. Шматлікія міністры атабарыліся ў Драздах і да таго падобных прэстыжных кварталах, а Латушка збудаваў невялікі дамок з мансардай у былым рабочым пасёлку з яго разбітымі вуліцамі і заваленымі сметніцамі. Праўда, мясцовая ўлада адразу ж паклала на Латушкавай вуліцы асфальт. І нават бардзюры — здаецца, гэта адзіная вулка з бардзюрамі ў той частцы Ждановіч.

### 3. Быў у абойме, але заступіўся за «Палац»

Пры Латушку Міністэрства культуры распрацавала праграму «Замкі Беларусі». Згодна з ёй, за 2012–2018 планавалася аднавіць Стары замак у Гродне, замкі ў Лідзе і Любчы, Сапегаўскі палац у Ружанах, закансерваваць руіны іншых знакавых замкаў.

З іншага боку, пры ім жа ўпраўленне ідэалогіі аднавіла «чорныя спісы» дзеячаў культуры: музыкаў, пісьменнікаў. Сам міністр адмаўляў іх наяўнасць. Але калі ў кастрычніку Тэатр беларускай драматургіі адмяніў ужо праанансаваны канцэрт гурту «Палац», Латушка затэлефанаваў дырэктару. І выступ адбыўся.

### 4. Патрабаваў беларускае піва

«Гэта не скарга. Але прашу праінфармаваць, чаму ў Вашай кавярні не прадаецца беларускае піва...» — такі запіс пакінуў міністр культуры ў кнізе заўваг і прапаноў у сталічным «Ньюс-кафэ» ў 2009. Беларускае піва з той пары стала прысутнічаць у гэтай кавярні для цэнтравога бамонду, і нават у асартыменце.



Сяргей Гудзілін

### 5. Чароўная бландзінка

Пра асабістае жыццё Латушкі вядома мала. Але таблоіды паведамлялі, што ён у разводзе, і адзначалі, што дачка-прыгажуня гадавалася пры ім. Нярэдка ён з ёй з'яўляўся на канцэртах. З ёй жа вальсаваў на нядаўнім балі ў Нясвіжскім палацы. Апошнія гады Латушка стаў з'яўляцца на публіцы з чароўнай бландзінкай.

**Сяргей Макарэвіч**

# Пугач: «Шведы пажартавалі і я пажартаваў»

Лідар «J:Морса» апрануўся ў мядзведзіка і патрабаваў свабоды шведскаму народу.

Ёсць такі стары анекдот, як сустрэліся грамадзяне ЗША і СССР. Амерыканец кажа: «Я жыву ў вольнай краіне, магу выйсці з плакатам «Рэйган — дурань» да Белага дома, і мне нічога не будзе». Савецкі адказвае: «І што з таго? Я таксама магу выйсці на Красную плошчу з плакатам «Рэйган — дурань», і мне нічога не будзе».

Гэтая показка ўспомнілася пасля акцыі Уладзіміра Пугача ў шведскай сталіцы. Лідар аднаго з найпапулярнейшых гуртоў Беларусі, знаходзячыся ў Стакгольме, выйшаў на вуліцу апрануты плюшавым мядзведзікам і з плакатамі «Стоп, манархія» і «Свабоду шведскаму народу!». Музыка падышоў з плакатамі да каралеўскага палаца, любы жадаючы мог з ім сфатаграфавацца.

Пугач выклаў відэазапіс «акцыі» у блог і пракаментаваў яе наступным чынам:

«Імпартным выратавальнікам Беларусі ў большасці сваёй пляваць на нас. У палітыцы руліць мэтазгоднасць, а не мараль і агульначалавечыя каштоўнасці».

У інтэрнэце «медзведзіроўка» ад Уладзіміра Пугача выклікала неадназначную рэакцыю: некаторыя ўхвалілі музыку, іншыя вырашылі, што такім чынам Пугач даказвае сваю лаяльнасць.

«Я тут магу сказаць адно: альбо у чалавека ёсць пачуцце гумару, альбо яго няма, — сказаў музыка «Нашай Ніве». — Я проста прыехаў у Стакгольм, пабалдзеў трошкі і павесяліўся.

У Стакгольм музыка прыляцеў, каб працаваць над новым музычным праектам. Па словах Пугача, гэта будзе нешта зусім новае, не «J: Морс».

**Юрась Ускоў**




# Лукашэнка раскрыў лічбу супрацоўнікаў КДБ? «12 тысяч»

«Няхай іх будзе не 12 тысяч, не 10 тысяч і нават не 6 тысяч чалавек, — сказаў Аляксандр Лукашэнка, прадстаўляючы новага кіраўніка КДБ Валерыя Вакульчыка. — Няхай іх застанецца 3 тысячы. Але гэта застануцца самыя адданыя дзяржаве людзі. З такімі Вакульчык будзе працаваць. Усе астатнія — куды хочуць, хай сыходзяць», — сказаў кіраўнік Беларусі.

Ці азначаюць гэтыя словы, распаўсюджаныя дзяржаўным агенцтвам БелТА, што ў Камітэце на сёння працуе аж 12 тысяч чалавек? Імаверна, так.

Для параўнання: пры канцы існавання СССР колькасць супрацоўнікаў Камітэта дзяржбяспекі без уліку Памежных войскаў, але з улікам Войскаў урадавай сувязі складала каля 260 тысяч чалавек.

У СССР тады жыло 280 мільёнаў чалавек, у Беларусі цяпер — 9,4 мільёна. Калі 12 тысяч — дакладная лічба, то тады выходзіць, што колькасць спецслужбістаў на душу насельніцтва ў Беларусі істотна вышэйшая, чым у СССР. Рэч у тым, што КДБ — не адзіная спецслужба ў Беларусі. Ёсць яшчэ Аператыўна-аналітычны цэнтр, Служба аховы прэзідэнта і г.д.

У ГДР у 1989 з яе насельніцтвам 16 млн чалавек колькасць супрацоўнікаў і агентаў дзяржбяспекі (Штазі) складала 91 015 чалавек на штатнай аснове і каля 200 тыс. неафіцыйных інфарматараў. Як лічыцца, Штазі была самай разгалінаванай і шматлікай сярод спецслужбаў краін пад савецкім кантролем.

Як піша Сяргей Навумчык, у 1993, калі ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета, колькасць супрацоўнікаў КДБ складала 8500 чалавек.

**Сяргей Гезгала**

**Фотафакт**



**Новым старшынёй незалежнага Саюза палякаў стаў спартовы трэнер Мечыслаў Яськевіч. Ён набраў на 7 галасоў болей за дзейную старшыню Анжаліку Арэхву. 218 дэлегатаў прымалі ўдзел у з'ездзе Саюза, што прайшоў 18 лістапада ў Гродне.**

# Радзіна: Выехаць праз Расію мне дапамагла Адміністрацыя прэзідэнта

Рэдактарка «Хартыі-97» расказала падрабязнасці ўцёкаў з Беларусі.

Прыехаўшы ў Маскву нелегальна вясной 2011, журналістка змагла з дапамогай НВА «Мемарыял» атрымаць легальны статус. Перш чым пачаўся наступны этап яе шляху, яна атрымала нечаканую дапамогу з Крамля: «Мне патрэбна была выязная віза. Уладзіслаў Суркоў, першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, дапамог яе атрымаць».

«Гэтае рашэнне расейскіх улад ілюструе складаныя, часта супярэчлівыя адносіны паміж Мінскам і Масквой. Іх сяброўства пераменлівае», — піша французская газета «Монд» у артыкуле «Беларускі голас з-за мяжы» пра Наталлю Радзіну і сайт «Хартыя-97».

Мы звязаліся з Радзінай і запыталіся, ці яна звярталася да Суркова асабіста ці праз кагосьці.

«За мяне прасіла расійская праваабронца Святлана Ганнушкіна», — адказала Радзіна. Беларуская журналістка нагадала, што на тэрыторыю Расіі яна трапіла нелегальна, без дакументаў. Яна была пад следствам КДБ па справе пра так званыя «масавыя беспарадкі». Адпаведна, проста так выехаць з Расіі яна не магла.

Яна атрымала ў офісе ААН па справах уцекачоў і ў пасольстве Нідэрландаў часовыя праязныя дакументы, але на іх павінна была стаяць расійская выязная віза.

Свае драматычныя ўцёкі Радзіна апісала ў свой час у артыкуле «Круты маршрут».

«Пасля чатырох месяцаў афармлення статуса ўцекача па лініі ААН паўстала пытанне пра расійскую выязную візу, — расказала журналістка «Нашай Ніве», — і ў ААН мне сказалі, што трэба ісці ў Федэральную міграцыйную службу (ФМС), але мяне могуць арыштаваць, бо я ў вышуку.

Тады Ганнушкіна звярнулася да Суркова пасля сустрэчы праваабаронцаў з Мядзведзевым.

Тады адміністрацыя Мядзведзева — ён тады быў прэзідэнтам — дала згоду на тое, каб мяне адпусцілі з Расіі, і ФМС выдала мне выязную візу».

**Мікола Бугай**



**Святлана Ганнушкіна**

кіраўніца камітэта «Грамадзянскае спрыянне», сяброўка Рады па пытаннях развіцця грамадзянскай супольнасці пры прэзідэнце Расіі. Уладзіслаў Суркоў цяпер працуе віцэ-прэм'ерам ва ўрадзе Расіі.

## Сціісла

**Статкевіча перавялі ў лепшую камеру**

У выходныя палітвязень патэлефанаваў жонцы Марыне Адамовіч. Расказаў, што ў новай камеры яму цёпла. На прагулкі экс-кандыдата ў прэзідэнты водзяць у палову на сёмую раніцы, таму ён даўно не бачыў сонца.

**Беларусь усталюе дыпадносіны з Джыбуці**

Адпаведны ўказ Аляксандр Лукашэнка падпісаў 19 лістапада.

**Прадстаўнікі ЛДП другі раз за месяц паляцяць у Маскву**

Дэлегацыя Ліберальна-дэмакратычнай партыі адправіцца з візітам у Расію для сустрэч у Дзяржаўнай думе Расіі. Візіт пачнецца 22 лістапада, яго мэта пакуль не раскрываецца.

**У Гомелі новы мэр. Замест арыштаванага**

Новым старшынёй Гомельскага гарвыканкама стаў Пётр Кірычэнка. Ён працаваў намеснікам старшыні Гомельскага аблвыканкама. Раней кіраваў горадам Віктар Піліпец, але яго западозрылі ў карупцыі.

**ЗП**

# За смерць школьніка даішнікі заплацілі сваімі пасадамі

А трагедыю **можна было прадухіліць**.

Рапарты аб адстаўцы падалі намеснік начальніка ўпраўлення ДАІ ГУУС Мінгарвыканкама Канстанцін Страх і начальнік аддзела ДАІ адміністрацыі Фрунзенскага раёна сталіцы Юрый Жыхараў. Гэта стала рэакцыяй на здарэнне каля сталічнай школы №23 у мікрараёне Сухарава.

Увечары 13 лістапада, за якіх 15 метраў ад школы, аўтамабіль Porsche Cayenne насмерць збіў 9-гадовага хлопчыка. Трэцякласнік Улад раптоўна выбег на праезную частку, а кіроўца не паспеў затармазіць. Было цёмна — ліхтары не працавалі. І побач са школай стаялі два дзясяткі аўто — іх уладальнікі прыехалі на бацькоўскі сход. Хлопчык і не заўважыў небяспекі.

За рулём Porsche аказаўся 37-гадовы дырэктар прыватнай фірмы, жыхар аднаго з навакольных дамоў. Ён падвозіў да школы сваю дачку-старшакласніцу. Пасля таго як наехаў на хлопчыка, моцна крычаў і плакаў.

Следчым камітэтам распачата крымінальная справа за парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. Следчыя мяркуюць, што трагедыі не было б, каб аўтамабіль не апынуўся на тэрыторыі школы, парушыўшы ПДР. У прыватнасці, кіроўца праехаў «пад знак». Няправільна прыпаркаваныя былі і іншыя машыны. Мо за адной з іх хлопчык і не разгледзеў дарогі.

Ужо на наступны дзень ліхтары адрамантавалі, а побач з усімі мінскімі школамі з'явіліся даішнікі. Яны сачылі, каб аўто не пад'язджалі блізка да навучальных установ.

**Кастусь Матушыч**

Ліст у Рэдакцыю

## Не было б дарогі да школьнай сталоўкі — не было б трагедыі

Толькі пакараннямі **бяспеку дзяцей** не гарантуеш.

Хачу выказаць сваё меркаванне адносна смяротнага наезду аўтамабіля на хлопчыка перад школай № 23 на вуліцы Панчанкі.

Я лічу больш за ўсіх вінаватымі тых, хто спраектаваў школьную сталоўку злева ад цэнтральнага ўвахода, далёка ад галоўнай дарогі, а падвазную дарогу да яе — праз увесь школьны двор! Не было б дарогі — не было б трагедыі.

Калі нават прэзідэнт заяўляў, што не трэба жыць па законах, а падганяць іх пад жыццё, то на забараняючыя знакі ўсё адно будуць пляваць, а дзеці будуць пад рызыкай. І гэта трэба было ўлічваць і пры праектаванні ды эксплуатацыі.

Я таксама забіраю вечарамі сваё дзіця з гэтай школы, і мне страшна падумаць, што ён мог аказацца на месцы Уладзіка.

Толькі абвінавачваннямі і пакараннямі бяспеку дзяцей не гарантуеш. Трэба глядзець у корань праблемы і радыкальна вырашыць яе.

Мая прапанова ад імя бацькоў гэтай школы: забарыкадаваць дарогу ўвогуле, а не толькі абмежаваць шлагбаумам. Хай дзеці смела гуляюць па ёй! Трэба паставіць плот на дарозе перад заездам насупраць, дзе толькі школа пачынаецца, дакласці пару метраў асфальту з правага боку школы, каб падвозіць для выгрузкі выключна толькі ежу і абсталяванне. Там выгружаць іх і развозіць па калідоры вазком падчас заняткаў!

Толькі не трэба казаць, што няма грошай на бяспеку сотняў дзяцей падаткаплатнікаў!

**Зміцер, Мінск**



На месца трагедыі каля школы №23 дзеці неслі цацкі.




Ваду «Сваяк» рэкламуе Алесь Мухін са «Што? Дзе? Калі?».

## Шматдзетны бацька просіць забараніць рэкламу «Бульбаша»

«Рэкламуюць, а я яе **ў вочы не бачыў**».

Зміцер Салошкін — дзіцячы рэаніматолаг з Мінска і бацька чацвярых дзяцей. «Увесь час бачу рэкламу «пітной вады «Бульбаш», —- расказвае ён. — Я задумаўся: чаму я нідзе не сустракаю яе ў крамах? Тое самае з «Крышталём». А мае дзеці просяць: тата, давай купім «Бульбаш».

«Бульбаш», «Крышталь», «Сваяк» робяць грошы на гарэлцы. Але гарэлку рэкламаваць забаронена. Ідзе масавая рэклама аднайменных водаў. Доктар Салошкін лічыць такое нядобрасумленным. Фактычна, на яго думку, гэта схаваная рэклама асноўнай прадукцыі — гарэлкі.

Яго абурыла: брэнды застаюцца ў галовах дзяцей. Ён напісаў скаргу ў Міністэрства гандлю з просьбай разабрацца з рэкламай вады «Бульбаш».

«Ні ў «Суседзях», ні ў «Прэстане», ні ў «Еўраопце» вады «Бульбаш» няма». Больш за тое, на сайце вытворцы, завода вінаградных вінаў «Дыяніс», няма нават інфармацыі пра такую ваду.

Адказу з міністэрства яшчэ няма, але ўжо выступіла міліцыя. Яна патрабуе забараніць прыхаваную рэкламу гарэлак праз воды.

Начальнік упраўлення прафілактыкі МУС падпалкоўнік Алег Каразей таксама прапануе скараціць аб'ёмы вытворчасці «чарніла» і падняць цану на алкаголь. Міліцыянты выступаюць і за павеліцэнне ўзроставага цэнзу на продаж алкаголю да 21 года.

**Сямён Печанко**

Фотафакт




**У Навагрудку ўсталявалі помнік спеваку Уладзіміру Высоцкаму, які мае беларускія карані. У 1969 Высоцкі наведваў горад, калі здымаўся ў фільме «Сыны ідуць у бой». Хаця мясцовыя кажуць, што лепш паставілі б помнік Мулявіну.**

## Памёр вакаліст «Сіняй птушкі» Сяргей Драздоў

Ён **ураджэнец Гомельшчыны**.

Выканаўца памёр 18 лістапада ў Тамбове (Расія) ва ўзросце 57 гадоў пасля працяглай хваробы.

Сяргей Драздоў увайшоў у гісторыю як адзін з вядомых галасоў Савецкага Саюза, выканаўца знакамітых песень «Там, дзе клён шуміць», «На ростанях», «Маміна пласцінка», «Дык вось якая ты», «Я іду табе насустрач».

Ён нарадзіўся і вырас у вёсцы Мільча пад Гомелем. Пасля заканчэння музычнай школы паступіў у музычнае вучылішча імя Сакалоўскага, дзе быў заснаваны ВІА «Галасы Палесся». У 1975 з прыходам братоў Балотных і пераездам у Расію ансамбль стаў называцца «Сіняя птушка».



Як адзначыў музычны крытык Зміцер Безкаравайны, Сяргей Драздоў не забываў пра свае карані. Год таму ён расказаў у СМІ, што ў пашпарце заўсёды быў запісаны беларусам, пакуль гэту графу не адмянілі.

«На першых пласцінках у мяне нават характэрны акцэнт ёсць — калі чую гэтыя запісы, усміхаюся, — расказваў ён. — Паколькі музыка — гэта праца, то па-за сцэнай я практычна не спяваю. Але калі ўжо заспяваю, то палескія песні маёй бабулі: «За туманам», «Зялёная вішня».

**БелаПАН**

# Панаехала гасцей

У «Мінск-Арэне» прайшоў чарговы **Беларускі інвестыцыйны форум**.

Штогадовы Беларускі інвестыцыйны форум, які летась не праводзіўся праз крызіс, сёлета зноў сабраў некалькі сотняў дэлегатаў з усяго свету. Кампанія была багатая: па словах міністра эканомікі Мікалая Снапкова, аб'ём капіталізацыі прадстаўленых кампаній склаў больш за $2 трыльёны.

Праўда, разрэкламаваных арганізатарамі «расійскіх мультымільянераў» ніхто так і не бачыў. З славутасцяў у спіс удзельнікаў быў запісаны расійскі алігарх Міхаіл Гуцарыеў — магчыма, той самы загадкавы «Міша», які прапаноўваў за «Беларуськалій» $5 мільярдаў адкату. «На інвестыцыйных форумах часта прысутнічае шмат няўдачнікаў. А ў нас ёсць «крупняк», — пахваліўся прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч.

Паколькі Аляксандр Лукашэнка не прымае ўдзелу ў такіх мерапрыемствах, таму менавіта прэм'ер-міністр становіцца галоўнай асобай. Мясніковіч упершыню выконваў гэтую ролю, на папярэдніх форумах рэй вёў Сяргей Сідорскі.



Парадам камандаваў Міхаіл Мясніковіч.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Пагоня за рэйтынгам

Яшчэ некалькі гадоў таму беларускія ўлады паставілі за мэту ўвайсці ў трыццатку краінаў свету па лёгкасці вядзення бізнэсу. Якія-ніякія зрухі зробленыя — цяпер Беларусь на 58-м месцы са185-і, — але часцяком поспех дасягаецца за кошт падгонкі канкрэтных законаў пад нарматывы складальнікаў рэйтынгу.

Напрыклад, па паказчыку «рэгістрацыя ўласнасці» наша краіна ўзляцела на трэцяе месца ў свеце, а ў «рэгістрацыі прадпрыемстваў» — на дзявятае. У той жа час па падаткаабкладанні, абароне правоў інвестара і звязанасці з сусветным гандлем Беларусь знаходзіцца ў канцы спіса.

Так і заявы, зробленыя Міхаілам Мясніковічам падчас форуму, выглядалі прывабнымі для інвестараў, але ніяк не супадалі з рэальнай сітуацыяй у краіне. «Усе абмежаванні па прыватызацыі зняты», — паабяцаў ён. «Я катэгарычна супраць прыватызацыі», — а гэта заява Аляксандра Лукашэнкі месячнай даўніны. Нявартa забывацца і пра спіс з двух дзясяткаў дадатковых абавязкаў, якія зусім нядаўна атрымлівалі ахвотныя стаць інвестарамі.

Мясніковіч заявіў, што нацыяналізацыі раней прыватызаваных прадпрыемстваў не было і не будзе. Аднак як тады разумець сітуацыю з кандытарскімі «Спартаком» і «Камунаркай»? Гэта была не нацыяналізацыя, а аднаўленне справядлівасці, растлумачыў прэм'ер. Вось толькі ці стане працей патэнцыйнаму інвестару ад змены фармулёўкі?

Лейтматывам выступлення чыноўнікаў — а на шырокую аўдыторыю быў упершыню выведзены low profile міністр эканомікі Мікалай Снапкоў — сталі перавагі Беларусі ад уступлення ў Мытны саюз: «Вы ўкладаеце грошы ў 9-мільённую краіну, а атрымліваеце рынак на 170 мільёнаў чалавек». Гэта новая эканамічная аснова лукашэнкаўцаў.

**Месца правядзення інвестыцыйных форумаў**

2008 — Лондан

2009 — Мінск, Нацыянальная бібліятэка

2010 — Франкфурт

2011 — праз крызіс не праводзіўся

2012 — Мінск, «Мінск-Арэна»



Андрэй Тур (справа) перайшоў з міністэрства эканомікі ў Адміністрацыю прэзідэнта.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Чарговы поспех ці чарговы правал?

Арганізатары форуму заявілі, што падчас мерапрыемства з інвестарамі было заключана 15 папярэдніх пагадненняў. Калі спіс сістэматызаваць, іх застаецца толькі дзесяць (глядзі пералік). Праўда, гэта толькі пратаколы аб намерах. Ні канкрэтных тэрмінаў іх рэалізацыі, ні адказнасці за невыкананне не прадугледжваецца. Да лагічнага завяршэння добра калі дойдзе палова з іх.

Добры прыклад — заключаная ў 2009 годзе інвестыцыйная дамова з бельгійскай кампаніяй AOI NV. Тады было абяшчана, што бельгійцы ўкладуць у будаўніцтва транспартна-лагістычнага цэнтра мільярд даляраў.

Што ж адбываецца з праектам цяпер? Па-першае, першыя аб'екты нібыта плануецца здаць у эксплуатацыю ў 2013 годзе, а скончыць будаўніцтва — толькі ў 2021. Па-другое, аб'ём інвестыцый ужо «ўсох» утрая — да $350 мільёнаў.

З іншага боку, супрацоўніцтва замежных інвестараў не абавязкова афармляецца на паперы пры першай жа сустрэчы. Розніца арганізатараў форуму ў тым, каб замежныя мільянеры патроху прыглядаліся да Беларусі.

**Ягор Марціновіч**

**Пратаколы аб намерах, падпісаныя падчас форуму**

1. Будаўніцтва ў Стамбуле завода па вытворчасці беларускага алкаголю «Крышталь», «Белалка» ці «Прыдзвіннe».
2. Будаўніцтва завода і арганізацыя разліву аліўкавага алею (інвестар з Турцыі).
3. Стварэнне сумеснага прадпрыемства па вытворчасці мацарэлы (інвестар з Італіі).
4. Будаўніцтва гасцініц у Гродне і Брэсце (інвестар з Нідэрландаў).
5. Будаўніцтва ў Магілёве завода па вытворчасці арыентавана-стружкавых плітаў (інвестар з Кіпра — гавані для шэрага расійскага капіталу).
6. Супрацоўніцтва паміж Акадэміяй навук і кампаніяй «Грындэкс» (Латвія).
7. Інвестыцыйныя намеры ў энергетычнай сферы (інвестар з Аўстрыі).
8. Будаўніцтва шматфункцыянальнага комплексу ў Кастрычніцкім раёне Мінска (інвестар з Кіпра).
9. Стварэнне вытворчасці ліцьцёвых прэс-формаў, тармазных сістэм і дадатковага абсталявання (інвестар — ПК «Комплекс-Сэрвіс»).
10. Будаўніцтва гандлёвага цэнтра ў раёне вул. Солтыса і Ваўпшасава ў Мінску (інвестар — «Прастор-Трэйд» Юрыя Чыжа).

## Беларусам прапануюць набыць дзяржаўныя аблігацыі

Пакуль што іх **скупляюць толькі** банкі, порцыямі па $100 мільёнаў.

Да канца 2012 года насельніцтву Беларусі прапануюць набыць дзяржаўныя валютныя аблігацыі. «Гэта будзе невялікая сума. Мы плануем прыцягнуць да $50 мільёнаў», — расказаў намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч. Ён мяркуе, што аблігацыі будуць новым інструментам для зберажэння насельніцтва, нароўні з банкаўскімі дэпазітамі.

Наколькі прыбытковымі будуць гэтыя аблігацыі? Міністэрства фінансаў будзе арыентавацца на 7,5% гадавых — той узровень, што цяпер прапануецца юрыдычным асобам. Валютныя дэпазіты з фіксаванай стаўкай цяпер складаюць толькі 6-6,5%.

Тым часам дзяржава працягвае рабіць усё новыя выпускі валютных аблігацый для юрыдычных асобаў. У пачатку кастрычніка $100 мільёнаў Беларусь «пазычыла» ў банка «Бел-ВЭБ», а тыдзень таму такую ж суму дзяржава атрымала ад дзяржаўнага ж «Беларусбанка».

**ЯМ**

### Сціслa

**«Беларусбанк» прыпыніў крэдыты на куплю кватэры**

Банк выдаў крэдытаў на 250 мільярдаў рублёў — увесь гадавы аб'ём фінансавання. Мяркуецца, што з пачатку года крэдытаванне адновіцца. Льготнае крэдытаванне не закранутае.

**Зона еўра рыхтуецца да абнаўлення банкнот**

Новыя грошы будуць адрозніваацца ад старых дадатковай абаронай ад падробак, наяўнасцю галаграмы і вадзяных знакаў з выявай Еўропы — персанажа грэцкай міфалогіі. Першая банкнота новага ўзору з'явіцца 10 студзеня.

**Паліграфкамбінат нікому не патрэбны**

Аўкцыён па продажы 4-павярховага будынка на плошчы Якуба Коласа зноў не адбыўся — не было ніводнай заяўкі. Мінгарвыканкам прапануе інвестарам выкупіць памяшканне плошчай 21 000 квадратных метраў за $48 мільёнаў і адкрыць там гатэль.

**МТС павышае тарыфы**

З 1 снежня на 10% вырастуць кошты ўнутрысеткавых і міжсеткавых званкоў, абаненцкай платы і SMS. А вось кошт інтэрнэту застанецца нязменным.

**ЯМ**

# Што лечаць у лабараторыі сну

Дыягностыка — 922 тысячы, супрацоўнікам Кіраўніцтва справамі прэзідэнта — ільготы.

У Мінску паўтара года як працуе першая ў краіне лабараторыя сну на базе Рэспубліканскага клінічнага медыцынскага цэнтра Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, шырока вядомага як «Лечкамісія». На днях лабараторыя правяла навуковую канферэнцыю.

— Мы першыя адкрылі ў нашай установе лабараторыю сну і змаглі абследаваць і дапамагаць пацыентам дадзенай катэгорыі. І, вядома, нягледзячы на тое, што мы вельмі маладыя ў гэтым пытанні, нам усяго толькі паўтара года, нам удалося сабраць вельмі вядомых лектараў, прафесараў, якія да нас прыехалі з Масквы, з Грузіі, з Амерыкі. Мы спадзяёмся, што яны падзеляцца з намі сваім досведам, але і ў нас ужо ёсць свае цікавыя навуковыя напрацоўкі, — сказала з гэтай нагоды ў інтэрв'ю тэлеканалу СТБ галоўная доктарка клінічнага цэнтра Ірына Абельская. Старшыня неўралагічнага аддзялення лабараторыі Наталля Чэчык расказала «Нашай Ніве», што да іх паспела звярнуцца каля 250 пацыентаў. Для беларусаў дыягностыка каштуе 922 тысячы рублёў, падбор лячэння дыхальных расстройстваў, звязаных з парушэннямі сну, — 923 тысячы. Але калі браць дзве паслугі адначасова, на апошнюю дадуць зніжку ў 140 тысяч рублёў. Бясплатна абследаванне могуць прайсці толькі супрацоўнікі Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, але толькі ў выключным выпадку і толькі пасля рашэння лекарскай камісіі.

Паслугі цэнтра даволі папулярныя сярод замежнікаў: у цэнтры пабывалі 70 расейцаў, жыхары Прыбалтыкі, Чэхіі... Пры гэтым грамадзяне СНД заплацяць удвая больш за беларусаў, грамадзяне «далейшых» дзяржаў — утрая. Працы лабараторыі хапае: чарга на прыём распісаная да канца года.

Медычная дысцыпліна, што вывучае сон, завецца самналогія. Нягледзячы на малады век беларускай самналогіі, гэтая медыцынская дысцыпліна актыўна і даўно развіваецца ў свеце.

У сваёй большасці зямляне не высыпаюцца: толькі 49% спяць 8 ці больш гадзін у суткі, а 1 чалавек з пяці кожную ноч спіць менш за 6 гадзін. Прычыны бяссонніцы могуць быць розныя: ад інтэрнэтзалежнасці да захворванняў.

Самнолагі даказалі, што да парушэнняў сну трэба ставіцца сур'ёзна. Адна з найчасцейшых прычынаў няякаснага сну — апноэ, калі падчас сну ў чалавека наступаюць затрымкі ў дыханні (за ноч іх можа быць сотні, а агульны час удушша набліжацца да некалькіх гадзін). Пры гэтым арганізм не атрымлівае дастаткова кіслароду, якасць сну падае. Апноэ можа прыводзіць да хранічнай стомленасці, хваробаў сардэчнасасудзістай сістэмы, скарачае жыццё на некалькі гадоў. Смяротнасць сярод людзей з цяжкімі формамі апноэ ў паўтара разу вышэйшая, чым у здаровых людзей.

Лабараторыя сну адкрыла беларусам доступ да прафесійных самнолагаў, чаго бракавала раней. «Каб вылечыць апноэ ў сне, людзі самастойна ездзілі ў Расію, бо выявіць дадзенае захворванне можна толькі з дапамогай спецыяльнага маніторынгу, — кажа Наталля Чэчык. — Без яго можна толькі падазраваць апноэ».

Парушэнні сну — небяспечныя захворванні, ад якіх можа пацярпець не толькі хворы, але і людзі навокал. Паводле дадзеных амерыканскіх даследчыкаў, 37,9% амерыканцаў хація б аднойчы на месяц ненаўмысна засынаюць, а 4,5% засынаюць падчас кіравання аўтамабілем. Праз парушэнні сну здараюцца сотні аўтааварыяў ды няшчасных выпадкаў на прадпрыемствах. Вось як у мінулыя выхадныя пад Лоддзю (старонка 10). Санлівасць можа нават стаць прычынай тэхнагенных катастрофаў. У Беларусі ж на затрымкі дыхання падчас сну ды храп, адзін са «спадарожнікаў» апноэ, звяртаюць мала ўвагі і не ідуць да доктара, а прымушаюць храпуна пераварнуцца на іншы бок.

**Кірыла Хілько**

**Апноэ**

затрымкі ў дыханні падчас сну. Арганізм не атрымлівае дастаткова кіслароду, якасць сну падае. Апноэ можа выклікаць хранічную стомленасць, хваробы сардэчна-сасудзістай сістэмы, скарачаць жыццё. Смяротнасць сярод людзей з цяжкімі формамі апноэ ў паўтара разу вышэйшая, чым у здаровых людзей.

# Якое малако мы п'ём?

Ці нармальна, што **каровы ходзяць па чэрава ў жыжцы**? Фота выклікала шум.

Інтэрнэт абляцеў кадр з Віцебскага раёна: каровы на ферме стаяць у гнаі. Фота зрабіла звычайная дзяўчына, Алена Барысенкава, і выставіла ў сацыяльнай сетцы. Факт меў месца на малочнатаварнай ферме ААТ «Аграпраца» ў вёсцы Валькі. Заатэхнік гаспадаркі пацвердзіў: так, не было паліва, каб вывезці гной, цяпер чысцім.

Для краіны, якая штогод зарабляе на экспарце малака больш за $1,5 мільярда, чысціня на фермах — пытанне дзяржаўнай важнасці. Ад гэтага залежыць рэпутацыя сектара.

Абмеркаванне фота на сайце NN.BY сабрала пад 100 каментаў. Людзі масава абураліся. А вось спецыяліст сказаў нам: нічога страшнага.

Андрэй Юркоў, які раней працаваў на малочным прадпрыемстве «Данон-Юнімілк», тлумачыць: «Галоўнае, каб было чыста і суха там, дзе карова ляжыць. А дзе яна ходзіць і есць — няма розніцы. Яе ж не прымусіш за сабой прыбіраць».

Ад чаго залежыць якасць малака? «Перадусім — ад здароўя жывёлы. Яшчэ ад таго, наколькі чыста карове вымылі вымя і падаілі. Бо і каровы бываюць ахайныя, а бываюць такія, што запэцкаюцца ад вушэй да хваста. Іх трэба мыць, а пасля даіць, — раіць эксперт. — Тады будзе якаснае малако».

Аднак уся беларуская прадукцыя ўсё адно пастэрызуецца, а то і стэрылізуецца, дадае ён. Усё лішняе ў малацэ забіваецца.

У ліпені чатыры беларускія прадпрыемствы — брэсцкія «Санта Брэмар» і «Савушкаў прадукт», а таксама Бярозаўскі і Верхнядзвінскі камбінаты — атрымалі правы на пастаўку прадукцыі ў Еўрасаюз. Ці значыць гэта, што і ў беларускіх крамах яны будуць прадаваць малако па еўрапейскіх стандартах? Вядома ж не, кажа Андрэй Юркоў. Па яго словах, малако «для Еўропы» выраблецца не на кожнай беларускай ферме і праходзіць некалькі дадатковых жорсткіх узроўняў кантролю. Айчынныя ж стандарты якасці пакуль не такія строгія.

**Ягор Марціновіч**



АЛЕНА БАРЫСЕНКАВА

**Фотафакт**



ULTRA-MUSIC.COM

**13 лістапада ў Мінск з новым альбомам завіталі сусветна вядомыя амерыкана-шатландскія рокеры Garbage. Вітаючы публіку абавязковым кампліментам, вакалістка Шырлі Мэнсан згадала Нацыянальную бібліятэку: «Яна зрывае дах проста! Відаць, тут жывуць вар'яцкія архітэктары».**

# Уладзімір Беражкоў: «Прессбол» прадаецца

**Найбуйнейшае спартыўнае** выданне краіны, газета «Прессбол», шукае інвестара.

У аўторкавым нумары пра гэта ў сваёй калонцы напісаў галоўны рэдактар выдання Уладзімір Беражкоў.

**«Наша Ніва»: Ці правільна казаць, што «Прессбол» прадаецца?**

**Уладзімір Беражкоў:** Абсалютна правільна.

**«НН»: Што падштурхнула да такога кроку?**

**УБ:** Сітуацыя на рынку прэсы такая, што існуе дысбаланс між папяровымі выданнямі і інтэрнэтам. Газеты страчваюць у накладзе, а колькасць наведвальнікаў у нэце расце. Але інтэрнэт не прыносіць нам прыбытку. Нашы рэкламадаўцы не вельмі зацікаўленыя ў інтэрнэце. Так ужо склалася, што ў інтэрнэце ўсё бясплатна. А прафесіяналы задарма працаваць не могуць. Прынамсі, доўга.

**«НН»: Наклад моцна знізіўся?**

**УБ:** Тры гады таму наклад аўторкавага нумара быў каля 30 тысяч. Сённяшні «Прессбол» выйшаў з накладам крыху большым за 16 тысяч. Таксама мы маем каля 600 пдф-падпісчыкаў.

**«НН»: Інвестару прапануецца кантрольны пакет акцый?**

**УБ:** Залежыць ад інвестара. Кожны выпадак трэба разглядаць індывідуальна.

**«НН»: А хто сёння з'яўляецца ўладальнікам газеты?**

**УБ:** Гэта пяць чалавек. Усе яны працуюць у «Прессболе»: я, Юрый Арлоў, Сяргей Новікаў, Аляксандр Дабрыян, Дзмітрый Беленькі. Усе мы пагадзіліся, што патрэбна шукаць інвестара.

**«НН»: У сваёй калонцы Вы пішаце, што гатовыя стварыць «новы ліквідны прадукт». Будуць змены ў фармаце выдання?**

**УБ:** У першую чаргу гэта датычыць інтэрнэту. Там трэба ствараць новы прадукт. Што тычыцца газеты, то ў нас працуюць, можна сказаць, дыназаўры журналістыкі, выдатныя публіцысты, майстры сваёй справы. Трэба іх захаваць.

**«НН»: «Прессбол» заўсёды цаніў за яго незалежную пазіцыю. Не баіцеся яе страціць?**

**УБ:** Газету будуць рабіць тыя ж прафесіяналы.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Туфлі трох багатыроў: Мясніковіч, Тур, Снапкоў

**Колькі каштуе абутак найвышэйшых асоб краіны і што могуць сказаць туфлі пра свайго гаспадара?**

Фатограф «НН» Сяргей Гудзілін на Інвестыцыйным форуме сфатаграфаваў туфлі прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча, міністра эканомікі Мікалая Снапкова і намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэя Тура.

Мы ўзялі каментары ў работнікаў пяці мінскіх буцікоў, якія не здагадваліся, чые туфлі аказаліся пад пільным разборам, і з радасцю выказалі сваё меркаванне. Працэс ідэнтыфікацыі абутку праходзіў вельмі цікава: у кожнай з крам збіралася камісія з 3-5 чалавек, а потым прафесійна абмяркоўвалі фасон туфляў, шнуркі, абцасы і скуру. Не абышлося без спрэчак.

Хтосьці сцвярджаў, што абутак Мясніковіча дарагі, але паношаны, хтосьці прытрымліваўся меркавання, што туфлі бюджэтныя. Самым цікавым быў момант, калі пры канцы гутаркі мы расказвалі экспертам, чые туфлі яны абмяркоўвалі. Былі ўсклікі, смех і частае: «Ну даюць, дзе ж яны толькі знаходзяць такі абутак, хай завітаюць да нас, мы іх абуем нармальна».

Вось якія высновы выйшлі.

**Вольга Гарапучык**



Туфлі Мясніковіча

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Каштуюць даляраў 200, не больш. Па матузках можна сказаць, што мадэль не беларуская. Такія туфлі можа насіць сапраўдны гаспадар, які ведае ўсяму кошт, для яго адзенне не на першым месцы, гэта чалавек старой загартоўкі.



Туфлі Тура

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Каштуюць да 500 даляраў. Таксама абутак не беларускі. Імкнецца рабіць з сябе модніка. Але з густам праблемы, бо не навучыўся спалучаць рэчы. Чалавек упэўнены ў сабе, мае непахісны характар, шмат амбіцый. Тут можна казаць пра беларускі гламур.



Туфлі Снапкова

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Рэкамендацыі абутнікоў**

Для строгіх гарнітураў рэкамендуецца абуваць скураныя туфлі чорнага ці цёмна-карычневага колеру як са шнуркамі, так і без. Свабодныя туфлі ў шматлікіх сферах бізнэсу часцей за ўсё разглядаюцца як занадта несур'ёзныя, гэтак жа недарэчна будуць глядзецца туфлі з устаўкамі іншага матэрыялу. Для меней кансерватыўных выпадкаў яны прымальныя ў камбінацыі з джэмперам і штанамі. Шкарпэткі павінны закрываць лыткі ног. Лепш насіць аднатонныя шкарпэткі, яны павінны быць цёмнага колеру.

Ад 500 даляраў. Магчыма, нейкая італьянская мадэль. Чалавек мае нейкую добрую пасаду, і ёсць намёк на густ. Асоба стрыманая, акуратная, ведае сваю справу і трывала стаіць на нагах.

# Памёр Барыс Стругацкі



19 лістапада на 80-м годзе жыцця не стала расійскага фантаста Барыса Стругацкага. Ён пачынаў творчасць разам з братам Аркадзем, а пасля яго смерці ў 1991 напісаў два самастойныя раманы. «XX стагоддзе для мяне — стагоддзе асляпляльных абяцанняў і крывавых расчараванняў. Ні панацэі ад усіх хвароб не адкрылі, ні нават сродку ад карыесу, не кажучы ўжо пра рак. Беднасць — не перамаглі. Утопіі — не пабудавалі», — казаў Барыс Стругацкі.

**ЗП**



# Прадстаўніца Расіі на «Міс Зямля»: Мая краіна — жабрачка

«Мая Расія — бедная краіна, бязлітасна раздзертая прагнымі, несумленнымі, бязвернымі людзьмі. Мая Расія — гэта вялікая артэрыя, з якой нешматлікія «абраныя» адводзяць яе багацці. Мая Расія — жабрачка. Мая Расія не можа дапамагчы сваім старым і сіротам», — так нечакана выступіла Наталля Пераверзева — прэтэндэнтка ад Расіі на конкурсе «Міс Зямля».

**Чытайце цалкам на nn.by**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Асечка, альбо Ноч на 23 лістапада

...Ужо і не памятаю, які то быў дзень, калі, скончыўшы заняткі, я вырашыў наведаць сябра, што працаваў настаўнікам у мястэчку В. Не даваў спакою нечаканы званок ад Соні, ягонай кабеты, таксама настаўніцы. «Прыедзь, — у дрыготкім голасе чулася занепакоенасць, — з Арнольдам нешта не тое...»

Ехаць не выпадала — ні аўтобуса, ні так званага грузавога таксі на той час ужо не чакалася. Пайшоў пешшу. Што для маладых ног 7 кіламетраў па яшчэ цвёрдым, трошкі прыхопленым лістападаўскім марозікам, прасёлку?! Але ішоў аж да ночы, якая абрынулася раптам ураганным ветрам з дажджом і снегам.

«Няма, няма твайго Арнольда, сышоў некуды», — старая Тэкля, трымаючы ў адной руцэ газавую лямпу, другой з усёй моцы намагалася зачыніць перад носам дзверы. «Ды я пачакаю». —«Чакай, калі дачакаеш...» — «Лямпу дасце?» — «А газы прынёс?» Бразнуўшы завалай, старая зачыніла за мной дзверы і пайшла на сваю палову хаты, мармычучы нешта злоснае пра дэфіцыт газы...

Хату старой Тэклі, ці не найвялікшую ў мястэчку — з двух прасторных пакояў, падзеленых гэткай жа прасторнай кухняй, з высокім гарышчам пад жалезным дахам, — збудавалі ёй два сыны, што час ад часу наязджалі з Польшчы. Адзін пакой яна здала Арнольду. Але адносіны з ёй не заладзіліся, хаця дапамагаў бабульцы як мог: пілаваў дровы, насіў з мястэчка прадукты, прывозіў з Мінска балгарскія цыгарэты, бо старая смаліла, а ніякіх цыгарэт, увогуле аніякага тытунёвага тавару нават у райцэнтры не было. Усё зусім сапсавалася пасля таго, як Арнольд прынёс з крамы сланечнікавага алею. «Ці ж гэта алей?! — трэсла патэльню старая Тэкля. — Вось пры Польшчы быў алей дык алей, не тое, што за тваімі Саветамі...» І тое праўда: замест пырскання пад бульбянымі аладкамі алей у момант знікаў з патэльні бы вада...

...Арнольда ўсё не было. Мусіць, у Соні, вырашыў я. Не распранаючыся, прылёг на шырокі драўляны ложак, падсунуўшы пад шчаку здзядзянелую падушку.

Раптам нешта бліснула ў цемры, і я заўважыў на падаконні «Спідолу»....

Якая ж гэта асалода — вольна, сам-насам з усёй планетай, блукаць уначы па хвалях сусветнага эфіру! Праз трэсканне, абрыўкі незразумелых слоў і далёкіх мелодый прарывацца да

### Які Освальд? Ці не той чарнявы хлопец...

нечага невядомага, нават забароненага... Вось... вось... «Голас Амерыкі»... Кенэдзі... Далас... замах...паранены... забіты... кубінцы... Освальд...

Які Освальд? Ці не той чарнявы хлопец, што сціпла туліўся да светлавалосай дзяўчыны на адной студэнцкай пагулянцы ў старой хатцы ля Бетоннага моста? «Знаёмцеся, — прадставіла хлопца гаспадыня, — амерыканец...» Так, гаспадыня працавала на «Гарызонце», і хлопец быў адтуль...

Мяне ахапіў нязвыклы, аж да дрыжыкаў, жах. Чаму? За што? Няўжо кубінцы? І прычым тут Освальд? Згадаўся Рыкарда, з першых кубінцаў у БДУ. Не паспелі мы падчас знаёмства паціснуць рукі, як ён прачарціў у паветры вялікую дугу: «Мікіта.. Ракета... Амерыка... Бум!», — тыцнуў пальцам у далонь. І весела, як здольны толькі кубінцы, зарагатаў.

...Пад раніцу жах змяніўся жалем. Такі малады!

У прыцемках згадваўся за вокнамі першы снег. Паціху, каб не пабудзіць старую, я адчыніў дзверы і пайшоў, слізгаючы, да Соні шукаць Арнольда і паведамляць ашаламляльную навіну.

«А Арнольд з'ехаў... — Соня захінула халат. — У Мінск, апошнім аўтобусам» — «Кенэдзі забілі...» — «Як...забілі? Хто? За што?» — «Кажуць, што кубінцы. За тое, што прымусіў Хрушчова звезці з Кубы ракеты... Слухай, дык а што з Арнольдам?» — «Не ведаю. Але стаўся такі маўклівы. Ноччу гляджу — святло ў настаўніцкай. У школе анікога, а там святло. Думала, нехта пакінуў. Пайшла загасіць, а там Арнольд. Знерваваўся чагосьці, ты пачакай, гаворыць, а сам некуды знік. Потым вярнуўся і сказаў, каб ішла дадому, бо тут ёсць электрычнасць, і ён хоча папрацаваць. А потым прыбег і сказаў, што тэрмінова трэба ехаць у Мінск... Слухай, там чамусьці ружжо валяецца, ты б зайшоў у настаўніцкую, прыхаваў... нешта я з ім нарабіла...»

Дробнакаліберка ляжала на пацёртай скуранай канапе з зачыненым затворам. На падлозе, у шчыліне, пабліскваў патрон.

Вярнуўшыся з Мінска, Арнольд застаўся ў Соні. А ў маі яны ажаніліся. Усё вяселле рагатала, калі Соня расказвала, як замяніла сланечнікавы алей гарбатай, і старая Тэкля ці не з месяц смажыла на ёй Арнольду бульбяныя аладкі.

...Арнольд зрабіў добрую навуковую кар'еру. Аднойчы, калі адзначалі ягоны чарговы юбілей, ён у добрым падпітку вырашыў распавесці мне пра той выпадак. «Бог выратаваў... Калі б не асечка...»

«Калі б не Соня», — хацеў сказаць я. Але падумаў: можа, і Бог.

* * *

Карыбскі крызіс скончыўся 20 лістапада 1962. Сусветная ядзерная вайна дала асечку.Джон Кенэдзі быў забіты 22 лістапада 1963, у ноч на 23-га па маскоўскім часе.

Менавіта ад той ночы скончылася мая асабістая «халодная вайна» з Амерыкай. Верагодна, што не толькі мая.

# «Што б ні прапаноўвалі, а беларус будзе выбіраць боршч»

**Павел Мятліцкі** — беларускамоўны кухар элітарнага рэстарана «Камяніца» — дзеліцца сакрэтамі.

Не згубілі магчымасці трапіць у святая святых — кухню ўстановы, разведалі рэцэпт «Судака па-нёманску» і пагутарылі з Паўлам Мятліцкім не толькі пра кухню.



Уладзімір Грыбаедаў

### Навучыўся на практыцы

Аднойчы запісаўся на 6-месячныя курсы кухараў. Я быў вельмі незадаволены, бо заплаціў шмат грошай за адну тэорыю, усім асноўным момантам навучыўся ўжо на працы. Я не разумею, навошта пад запіс даваць рэцэпт баршчу. Лепей тры разы зрабі гэты боршч, тады ты на ўсё жыццё запомніш, як яго гатаваць. Боршч — сімвал нашай выбарчай сістэмы. Што б ні прапаноўвалі кандыдаты, паспаліты беларускі люд будзе абіраць боршч. Дзяўчаты надзіва часта жартуюць на тэму баршчу, але не ўсе з іх умеюць яго гатаваць, таму трэба спачатку навучыцца гатаваць боршч, узяць яго ў тэрмас і ісці на плошчу.

**Судак па-нёманску**

Філе судака 200 г

Прыправа

Мука

Робіце невялічкія надрэзы на філе судака, каб пры смажанні рыба не звярнулася, пасыпаеце прыправамі, паніруеце ў муцэ і абсмажваеце.

Соус:

Замарожаныя белыя грыбы 100 г

Цыбуля 100 г

Вяршкі кулінарныя 120 г

Брусніцы

Віно 30 г

Соль

Перац

Белыя грыбы і цыбулю смажым, дадаём ваду, тушым і дадаём брусніцы і вяршкі, потым віно.

Усё тушыцца.

Пасля на патэльню кладзецца рыба, заліваецца соусам і на 20 хвілін ставіцца ў духоўку.



Той самы судак па-нёманску.

### Я быў «неграм»

У звычайным жыцці ты развіваеш беларускую мову ва ўмовах варожасці, а мне пашчасціла з тым, што кіраўніцтва «Камяніцы» стварае спрыяльныя ўмовы для беларускамоўных. Калі ты беларускамоўны і пры гэтым прынцыповы, то табе за гэтую прынцыповасць яшчэ і даплочваць будуць. У мяне ёсць апёкі, парэзы, але я атрымліваў іх напачатку працы, калі вучыўся, ну бывае, калі запара, то таксама перыядычна рэжаш і апякаеш рукі. 55 градусаў на кухні ў гарачым цэху — звычайная справа. Я вельмі люблю сваю працу, нягледзячы на тое, што першыя заробкі былі кропелькамі каціным, першыя два месяцы я быў «неграм», які рабіў усё, акрамя кухарскай справы. Але калі я прыйшоў туды і мне адразу з парога сказалі: «Размаўляй па-беларуску, калі ласка, я яе разумею і ўхваляю тваё рашэнне», — мне сапраўды было прыемна.

### Кухарства — гэта шляхетна

Шмат хто мяркуе, што кухарства — гэта пралетарская праца, але я лічу, што кухарства — гэта шляхетна. Ва ўмовах капіталізму пралетарыі пераарыентоўваюцца. Калі ты працуеш інтэлектуальна, то высмоктваюцца твае мазгі і адбываецца іх абмежаванне пэўнымі рамкамі.

### Мы павінны браць аб'ёмам, а не якасцю

На жаль, ва ўмовах капіталізму, каб жыць заможна, мы павінны браць аб'ёмам, а не якасцю. У Мінску месцаў з элітарнай кухняй адзінкі. І калі ты можаш утрымаць на адной руцэ тры талеркі з супам і не расплюхаць, то гэта добра — гэта шануецца. З цябе як з адзінкі імкнуцца высмактаць усё, усе твае фізічныя здольнасці, і пажадана, каб ты яшчэ і яшчэ развіваўся.

### Рондаль і патэльня

На кухні працуе звычайны народ. Спачатку на мяне з нейкай насцярожанасцю глядзелі, і я кожнаму вымушаны быў тлумачыць сваю пазіцыю. Я не размаўляю з імі складанымі беларускімі словамі і вымушаны ўжываць трасянычны варыянт, бо інакш не разумеюць. Але я навучыў ужо іх, што ёсць рондаль, а што патэльня.

### Ці з БНФ я

Вядома ж, былі пытанні, ці з БНФ я. Людзі, якія працуюць са мной, не задаюць сабе пытанняў пра стан Беларусі, пра нашу гісторыю ці ідэнтычнасць, ім гэта проста не трэба. У іх звычайна ўзнікаюць пытанні, датычныя зарплаты, зніжак, растэрміноўкі на рэчы, тачак і мабільных тэлефонаў. Для іх істотна тое, наколькі паспяхова ты выканаеш іх сацыяльны запыт. Ім усё роўна будзе, з чыіх рук атрымліваць гэтыя 500 даляраў.

Але людзі працуюць розныя. Некалі быў праграміст, ёсць хлопец — былы прадпрымальнік, ёсць дзяўчына — трактарыст.

### Да беларускай мовы я прыйшоў праз Бога

Дагэтуль беларускамоўныя выклікаюць шмат пытанняў. Цябе разглядаюць ці то як пачвару, ці то як цуд, які павінен мець сваю гісторыю. Я хрысціянін і ў 2003 хадзіў у царкву «Ласкі Божай», яны ладзілі школы, якія былі накіраваны з аднаго боку на хрысціянскую адукацыю, а з іншага — на нацыянальную, і я падпаў пад гэтую адукацыйна-ангажаваную плынь.

Раней я не паважаў Беларусь як паўнавартасны нацыянальны канцэпт. Але ў школах, якія ладзіла царква, яны пачалі расказваць пра гісторыю, але без істэрычных усклікаў «Жыве Беларусь», а проста знайшлі падыход, калі ты сам да ўсяго прыходзіш. У гэтай школе я пазнаёміўся са Змітром Дашкевічам. Яшчэ там былі людзі, якія заснавалі Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю. Таму можна казаць, што да беларускай ідэі і, адпаведна, мовы, я прыйшоў праз Бога.

**Вольга Гарапучык**



Інтэр'ер «Камяніцы» вытрыманы ў нацыянальным стылі.

Уладзімір Грыбаедаў

# Беларускія праграмісты разбіліся каля Лодзі

**Трое загінулі, дзіця пры смерці. Яны вярталіся на працу ў Германію.**

Subaru Forester з беларускімі нумарамі разбіўся на з'ездзе з кальцавой польскага горада Лодзь уначы 18 лістапада. Аўтамабіль ударыўся ў бетонную агароджу і загарэўся. Магчыма, кіроўца заснуў за рулём.

Сярод загінулых — два праграмісты, якія працавалі ў нямецкім прадстаўніцтве беларускай IT-кампаніі EPAM-systems у Франкфурце-на-Майне. Івану, які і кіраваў аўто, было 34 гады, Віктару — 31. Апошні ехаў разам з жонкай Юліяй і сынам Сямёнам. Сям'я летам перабралася ў Германію.

Тры чалавекі ў машыне загінулі. Застаўся жывы толькі 2-гадовы хлопчык: дзякуючы таму, што ён вылецеў з машыны ў часе аварыі. Медыкі вярнулі яго да жыцця, але стан яго па-ранейшаму вельмі цяжкі. Сямён ляжыць у «Цэнтры здароўя маці-полькі» ў Лодзі.

Знаёмыя праграмісты з EPAM кажуць, што ў Віктара былі білеты на самалёт, але ён прыняў прапанову калегі паехаць на аўтамабілі. У Беларусі яны наведвалі бацькоў.

EPAM Systems — гэта беларуская кампанія, якая займаецца пастаўкай паслугаў у галіне распрацоўкі праектнага праграманага забеспячэння. Створана ў 1993. Мае прадстаўніцтвы ў дванаццаці краінах і больш за 8100 спецыялістаў у штаце.

Адміністрацыя кампаніі адмовілася каментаваць здарэнне. Сябры пішуць, што праграмісты занадта доўга прастаялі на мяжы і таму кіроўца быў змучаны.

**КМ**



Віктар з сям'ёй меўся ляцець самалётам, а выправіўся на аўто.

# Маёр з Ваўкавыска затрымаў педафіла па дарозе з працы

**Аказалася, шэсць гадоў таму следчы ўжо затрымліваў гэтага ж зламысніка.**

12 лістапада каля 19-й следчы Ваўкавыскага раённага аддзела Следчага камітэта Валяр'ян Мураўка вяртаўся дадому, калі пачуў крык на пустцы. Ён пабег туды, а там пабачыў мужчыну, які ляжаў на дзіцяці, што прасіла ратунку і плакала. Зламыснік кінуўся наўцёкі, але маёр яго дагнаў і затрымаў.

9-гадовая дзяўчынка пасля ўрокаў адна вярталася дадому. На аўтобусным прыпынку да яе пачаў чапляцца незнаёмы дзядзька. Дэманстраваў свае палавыя органы, настойваў, каб яна пайшла з ім. На адмову ён заціснуў рукой рот і сілай выцягнуў на пустку, дзе раздзеў і наваліўся зверху.

Калі ў справу ўмяшаўся следчы, спалоханае дзяўчо сабрала свае рэчы і збегла. Каб адшукаць дзяўчынку, на наступны дзень міліцыянты вадзілі затрыманага па школах у мікрараёне Альшымава. Знайшлі яе ў чацвёртым класе.

Затрыманы раней быў судзімы за злоснае хуліганства і рабаванне. Яго пасадзілі ў 2006, і толькі нядаўна ён вызваліўся. Адметна, што расследаванне той крымінальнай справы вёў менавіта Валяр'ян Мураўка. Цяпер зламысніку пагражае да шасці гадоў турмы.

Следчыя не выключаюць, што мужчына можа мець дачыненне і да іншых падобных злачынстваў. На Гродзеншчыне сёлета гэта не першы такі выпадак.

**Кастусь Матушыч**



Ваўкавыскае Альшымава разбудоўваецца, і пустак у мікрараёне хапае.

**Фотафакт**



Сталічная міліцыя затрымала маладога чалавека, які падазраецца ў махлярстве. Ён размяшчаў у інтэрнэце свае прапановы па здачы кватэры, якія таксама знаходзіў у сецціве. Але часам пазначаў выдуманыя адрасы. Пры сустрэчы з патэнцыйнымі наймальнікамі лжэ-рыэлтар прасіў у іх перадаплату — 400—500 тысяч рублёў. Калі ён папярэдне дамаўляўся з гаспадарамі сапраўднай кватэры, кватаранты засяляліся. А бывала, што ён знікаў разам з грашыма, і людзі заставаліся на вуліцы. Партызанскае РУУС Мінска шукае тых, хто мог стаць ахвярай чалавека на фота. Тэлефанаваць на нумар (017) 230-34-34.

# Па году турмы за кожны мільён даляраў

**Забудоўшчык сабраў грошы, а будаўніцтва не пачаў.**

У Першамайскім судзе Мінска заканчваецца разгляд крымінальнай справы супраць уласніка фірмы «Перспектыва-ІнвестБуд»/«БранскЖылБуд» Сяргея Дземчука. Яго абвінавачваюць у махлярстве ў асабліва буйным памеры. Фірма Дземчука сабрала амаль 10 мільёнаў даляраў у беларускіх рублях на будаўніцтва трох шматпавярховікаў каля аўтавакзала «Маскоўскі». Але ў выніку ніводнай кватэры так і не пабудавалі. І цяпер яму пагражае да дзесяці гадоў турмы — па году за кожны атрыманы мільён даляраў.

Таццяна заплаціла $50 тысяч за аднапакаёўку ў адным з гэтых дамоў па курсе шасцігадовай даўніны. Сёння сума значна меншая. Яна працуе ў рыэлтарскай фірме, дзе ў 2006 і ўбачыла рэкламу праекта. «Я ніколі не думала, што ў такой законнай дзяржаве... Я таму і пераехала з Расіі, бо там — бясчынства», — кажа жанчына. Праз гэтую сітуацыю ў яе разваліцася сям'я.

Фірма Сяргея Дземчука ў 2004 выйграла тэндар. Яна абавязалася ўзвесці новы будынак метэацэнтра за горадам і закупіць для яго абсталяванне. За гэта фірме аддавалі пад будаўніцтва дамоў участак за Маскоўскім аўтавакзалам. Праз год ужо пачалі шукаць дольшчыкаў, патрабуючы ад іх стапрацэнтную перадаплату. 128 чалавек згадзіліся.

Толькі час ішоў, а ніякага будаўніцтва не вялося. Як выявіла праверка Камітэта дзяржкантролю, грошы забудоўшчыкаў былі пераведзеныя на рахункі іншых фірм, заснавальнікам ці сузаснавальнікам якіх з'яўляўся Дзямчук. І накіраваныя на іншыя праекты.

Дзівосы з дамамі за аўтавакзалам пачаліся ўжо ў дзень заключэння дамоваў. Алена двойчы «пагарэла» на гэтых кватэрах. Сям'я акурат атрымала спадчыну з-за мяжы, калі даведалася пра праект «Перспектывы-ІнвестБуда». Вырашылі абедзвюм дочкам пабудаваць па кватэры. Калі ў адной дачкі квадратны метр жытла каштаваў амаль 1000 даляраў, то ў другой — 2000. А заключаліся дамовы ў адзін дзень. Толькі пасля тэлефанаванняў і папрокаў суму паменшылі да 1600. Жанчына кажа, што цэны браліся з галавы і не былі нічым абгрунтаваныя.

Першы суд над Сяргеем Дземчуком адбыўся летась. Справу ініцыяваў Дэпартамент фінансавых расследаванняў КДК. Дземчука абвінавацілі ва ўчыненні маёмаснай шкоды без прыкмет крадзяжу. У працэсе выставілі новае абвінавачанне — махлярства. Бізнэсовец жа заявіў, што ён быў толькі ўласнікам фірмы, але не кіраўніком. А таму не мог распараджацца грашыма. У выніку яго апраўдалі. Паводле суддзі, не быў даказаны крадзеж грошай і іх нямэтавае выкарыстанне. Маўляў, гэта аб'ектыўныя прычыны, рызыка ў вядзенні бізнэсу. Без зменаў прысуд пакінулі і пасля разгляду касацыйнай скаргі.

26 чалавек, якія разарвалі дамовы і патрабавалі вярнуць грошы праз суд, атрымалі іх. Але з улікам апошняй дэвальвацыі вартасць тых сум утрая зменшылася. І сёння яны хочуць, каб ім выплацілі розніцу. Але большасць дольшчыкаў засталася і без кватэр, і без грошай. Адзін мужчына памёр нават. Дактары выявілі ў яго рак. Адзінай надзеяй была аперацыя ў Германіі. Але патрабаваліся грошы. Мужчына вырашыў адмовіцца ад кватэры, а грошы пусціць на аперацыю. Не дачакаўся.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сціслa

### Забіла мужа кувалдай

У Мазыры жонка забіла мужа-пенсіянера. Увечары яны пасварыліся. Калі мужчына лёг спаць, жанчына праламала яму галаву.

### Следства над Варламавым скончылі

Аляксандру Варламаву выставілі канчатковае абвінавачванне, і ён рыхтуецца да суда. Мадэльер паўтара года знаходзіцца пад вартай. Яго вінавацяць у махлярстве, крадзяжы, прысваенні маёмасці, ухіленні ад выплаты падаткаў, злоўжываннi службовымі паўнамоцтвамі. Пацярпелымі прызнаныя 353 чалавекі. Нанесеная шкода ацэнена ў 1,2 млрд рублёў.

### Бізнэсоўцу падазраюць у забойстве

У Нацыянальным аэрапорце Мінск затрымалі казаха. Мужчына зарэгістраваны ў Дубаі (ААЭ) у якасці індывідуальнага прадпрымальніка. Але МУС Казахстана яго адшуквае з 1996 года за забойства. Чакаецца яго дэпартацыя.

**КМ**

# Пяць фактаў пра Анатоля Ярмоленку

**Галоўны «Сябар»** адсвяткаваў 65-годдзе 15 лістапада.

«Наша Ніва» згадала пяць фактаў з жыцця лідара аднаго з самых важных ВІА Беларусі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Напалову ўкраінец

Радзіма Ярмоленкі — горад Казятын у Вінніцкай вобласці. Бацька спевака — беларус, а маці — украінка. Музычную кар'еру артыст пачаў у Ансамблі песні і танца Дома афіцэраў Бакінскай вайсковай акругі ПВА. Ярмоленка лічыць, што менавіта войска і зрабіла яго музыкам. Там ён сустрэў Мусліма Магамаева. «Свайго сына Святаслава я ледзь не за руку адвёў у ваенкамат, бо гэта школа жыцця» — казаў музыка ў адным з інтэрв'ю.

Вялікая частка творчага жыцця спадара Анатоля прайшла ў Гомелі. У мясцовай філармоніі ён іграў у ВІА «Сувенір» — разам з сённяшнімі расейскімі зоркамі Градскім і Буйновым, якія працавалі там па кантракце. У філармоніі ўтварыліся і «Сябры». Ансамбль, дарэчы, мог мець іншую, не менш легендарную назву — «Белыя росы».

У Мінск Ярмоленка з сям'ёй перабраўся толькі ў 1990-я, пасля Чарнобыльскай аварыі, калі жонка моцна захварэла.

### «А я лягу-прылягу»

Для «Сяброў» пісалі найлепшыя паэты. А пасля тыя песні рабіліся «народнымі». Між тым, аўтар словаў да «Гуляць дык гуляць» — Уладзімір Някляеў, а мегахіт «А я лягу-прылягу» напісаны на верш Ніла Гілевіча.

### «Слухай бацьку»

Песня тая прагучала напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 года, у агітацыйным канцэрце «Майстры мастацтваў — за моцную і квітнеючую Беларусь». Спявак ад самага пачатку, нібы з няёмкасці, казаў, што ў песні не маецца на ўвазе хтосьці канкрэтны, гаворка пра абагульнены вобраз беларускага бацькі: «Батька всех построіть может, батька всех другіх покручє». Кампазітар Алег Сарокін, аўтар музыкі, гаварыў пазней у інтэрв'ю «Белгазеце», што Ярмоленка цудоўна ведаў, хто прататып героя песні, і нават адгаворваў ад гэтай ідэі, бо «Лукашэнка такога не любіць».

### Дзяўчаты, дзяўчаты

Яшчэ ў інтэрв'ю музыка любіць згадваць, як у маладосці да яго ліплі прыхільніцы — напрыклад, вёз знаёміць з мамай сяброўку з Бабруйска, Раісу, якая пасля і стала жонкай, а дома яго чакала прыхільніца з Казахстана, якая прыехала да Ярмоленкі «выходзіць замуж». А потым кідалася на шыю яшчэ адна — з Ашхабада...

Сваёй Раісе, калі знаёміўся, Анатоль сказаў, што працуе грузчыкам. Каб «зорны» імідж не захінуў яго самога — бо ў момант знаёмства цвёрда вырашыў, што з Раяй ажэніцца.

### Алесю завуць Вольга

Так, «Алеся» — сцэнічнае імя дачкі Анатоля Ярмоленкі. Прычыну тлумачыць не трэба — аднайменная песня была мегахітом у пачатку 1980-х. Алесямі называлі дачок па ўсім СССР. Вольга-Алеся Ярмоленка працуе разам з бацькам у «Сябрах». Яе асабістае жыццё — за сям'ю пячаткамі. Казалі, што пасля раз'езду з грамадзянскім мужам Сяргеем Ліпенем яна сустракалася з танцорам кардэбалета, але сама спявачка абвяргае гэта. Іх з Сяргеем сын-падлетак спрабуе сябе ў якасці ды-джэя. Завуць яго як і дзеда — Анатоль.

**Юрась Ускоў**

# Аналітык з душой рамантыка

18 лістапада споўнілася 60-гадоў **Эдварду Зайкоўскаму**.

Выраз юбіляра «Я Эдвард Зайкоўскі з каменнага веку» ўжо стаў класічным жартам у навуковых колах. Спадар Эдвард — сярод найлепшых археолагаў. Ён спецыялізуецца на неаліце і бронзавым веку, вывучае паганскія вераванні і старажытнае мастацтва. Пра калегу піша археолаг Лявон Калядзінскі.

* * *

Ён нарадзіўся ў 1952 у вёсцы Дубашы Валожынскага раёна на Міншчыне.

Бацька Эдварда Міхаіл Маркавіч пачатак Другой сусветнай сустрэў у шэрагах Войска Польскага, пазней працаваў кавалём. Маці Ганна Дамінікаўна была хатняй гаспадыняй.

Магчыма, на фармаванне зацікаўленасцяў паўплывала тое, што Зайкоўскаму давялося хадзіць у школу ў вёсцы з красамоўнай назвай Вялікія Крывічы.

Пасля была вучоба на гістфаку БДУ, дзе разам з Уладзімірам Арловым Зайкоўскі наладзіў выпуск самвыдавецкага альманаха «Мілавіца», праца ў вясковай школе, аспірантура, абарона дысертацыі ў Вільні...

Зайкоўскі — спецыяліст у галіне неаліту і бронзавага веку. Але пасля абароны ён перавёў позірк на духоўную спадчыну старажытнай Беларусі: паганскія вераванні і першабытнае мастацтва, культавыя камяні, святыя крыніцы, капішчы.

Ён абышоў усю Беларусь. Раскопваў свяцілішчы Дзявочая Гара, Верхаўляны, Радагошча. Вывучаў курганы ў Смаргонскім, Чашніцкім, Лагойскім і Барысаўскім раёнах.

Браў удзел у вывучэнні помнікаў неаліту і бронзы каля вытокаў Волгі, раскопках славутага Бярэсця пад кіраўніцтвам Пятра Лысенкі, даследаванні Менскага замчышча ў 1980-я...

Ён мае шырокае кола навуковых інтарэсаў, што адхіляе ад стаўбавой дарогі, якая, па сутнасці, ужо прывяла яго да навуковай ступені доктара.

Сярод публікацый Эдварда ёсць і працы па музычнай культуры старажытнай Беларусі, і па гісторыі харчавання. Апошняя, відаць, нарадзілася праз сімпатыю да гэтага боку матэрыяльнай культуры беларусаў. Улюбёнымі яго стравамі былі і ёсць сала з праслойкай, грыбы, мачанка, бабка, дранікі, зацірка, свойскія каўбасы.

Ён апублікаваў больш як тры сотні артыкулаў, стаў суаўтарам гістарычных і этнаграфічных энцыклапедый і даведнікаў.

Эдвард Міхайлавіч — гэта крыніца ведаў, аналітык з душой рамантыка.

**Лявон Калядзінскі**


**Эдвард Зайкоўскі**
Нар. у 1952 у вёсцы Дубашы Валожынскага раёна. Скончыў БДУ і аспірантуру Акадэміі навук (1975). Абараніў дысертацыю ў Вільні (1985). Браў удзел у нефармальных аб'яднаннях беларускай моладзі 1980-х «Майстроўня» і «Талака». Аўтар кніг, навуковых артыкулаў, суаўтар энцыклапедычных даведнікаў «Беларуская старадаўняя кухня», «Міфалогія Беларусі», «Археалогія Беларусі» (у 4 т.), «Гісторыі Беларусі» (у 6 т.).

### Рэцэпт крамбамбулі ад Эдварда Зайкоўскага

З паўлітровай бутэлькі адліць паўшклянкі спірту, даліць столькі ж вады. Дадаць чвэрць чайнай лыжкі мускатнага арэха, 1-2 лыжкі мёду, чайную лыжку цынамону, чатыры лыжкі таўчонага гваздзіка. На дно кінуць 4-5 зярнятак перцу. Кіпяціць дзесяць хвілін, даліць спірт з вадой і пакінуць на пяць хвілін у закрытым посудзе. Прафільтраваць праз чатыры слаі марлі, на дно пакласці 2-3 зярняткі чорнага перцу. Падаваць халоднай. Калі няма спірту, можна выкарыстоўваць гарэлку.

### Захапленне Зайкоўскага — гістарычная кулінарыя

Сярод адроджаных ім старадаўніх рэцэптаў — крамбамбуля. «Першая ўзгадка пра крамбабулю адносіцца да XVIII стагоддзя, з'явіўся напой у Гданьску, — кажа Зайкоўскі. — Назва мае нямецкія карані — не дзіўна, дзве траціны насельніцтва Гданьска тады былі нямецкамоўныя».

**ЮУ**

### Віншаванні праз nn.by

Былі хлопцы — сталі дзядзькі, пабылі ў дзядзьках — парабіліся дзядамі. Стары Зайкоўскі — гэта мудра! Гэта вопыт! Чакаю ад Эдварда дакладнай і поўнай рэканструкцыі ўсяго, што адбывалася ў мінулым. Пажадана ў выглядзе поўнага збору твораў.

**Мікола Нікалаеў**

Ніколі не думаў, што ён вядомы археолаг! Мае віншаванні! Некалі ён мне дапамагаў разносіць улёткі ў Заводскім раёне.

**Мікола Раманаў**

Калі мы кажам «інтэлігенцыя», можна ўявіць спадара Зайкоўскага. Калі мы кажам «апазіцыя», таксама можна ўявіць спадара Зайкоўскага. Калі мы кажам «беларусы», таксама бачацца такія людзі, як ён. Многая лета!

**Іван Пяткевіч**

Віншую і зычу, пасля перамогі зь лікам 6:0, наступных перамог (7:0, 8:0..., 10:0)!

**Лявон Баршчэўскі**

Рад, што мы землякі і нашы бацькі жылі і працавалі супольна... Жадаю ўсяго самага найлепшага!

**Віктар Шніп**

Шаноўны Эдвардзе, ты яшчэ такі малады! Здароўя і...плёну!

**Мазынскі Валеры**

Жадаю табе, дарагі мой сябра юнацкіх гадоў, моцнага здароўя, жыццёвага дабрабыту і шчасця! Прыемна, што ў той «Мілавіцы», у выданні якой удзельнічаў Эдвард Зайкоўскі, былі надрукаваны і мае вершы.

**Мікалай**

Дарагі Эдвард! З юбілеем цябе! Жадаем здароўя, творчых поспехаў ... і ўнукаў.

**Святлана і Міхась Чарняўскія**

Дарагі Эдзік, ад душы віншую з юбілеем! З табой заўсёды прыемна і спакойна, ты робіш добрыя справы ў жыцці і пішаш добрыя працы ў навуцы. Вельмі рады, што давялося побач працаваць і змагацца. Жыве Беларусь!

**Валянцін Голубеў**

Эдвард, найлепшыя пажаданні! А вось і байка пра цябе. Выязджалі мы на з'езд славістаў у Кракаў. Я спазняўся на цягнік, жонка кпіла «ты адзін такі...», і я мог ёй паверыць. На цягнік паспеў, прыйшоў за дзве хвіліны да адыходу. Ты нармальна прыйшоў за 10 секунд да адыходу цягніка. Я быў шчаслівы :)

**Сяргей Запрудскі**

Шчырыя віншаванні сп. Зайкоўскаму. Хоць і не давялося з ім папрацаваць, але крылаты выраз «Я Эдвард Зайкоўскі з каменнага веку» чуў ужо не аднойчы...

**Алесь**

Ад імя гарадзенскіх археолагаў і гісторыкаў шчыра віншуем паважанага Эдварда Міхайлавіча! 100 лят!

**Сяргей Піваварчык**

Мілы і дарагі Эдвард, сардэчна віншую, люблю, памятаю і шчаслівая тым, што калісь разам удзельнічалі ў супольных імпрэзах за незалежнасць Бацькаўшчыны.

**Вольга Цярэшчанка, Гомель**

З вялікай надзеяй чакаем вашай кнігі аб паганскіх вераваннях старажытнай Беларусі.

**Любанская экспедыцыя**

Эдвард, здароўя табе на доўгія гады, плёну ў любімай працы і Божага благаславення!

**Алесь Капуцкі, Маладзечна**

Мала каго сустракаў у жыцці (незабыўны Караткевіч тут першы), які пра нашае мінулае ведаў гэтак шмат і адэкватна. Здароўя! Плёну! Шчасця!...

**Язэп Янушкевіч**

# Праваабаронцы заклікаюць усіх даслаць звароты ў абарону ARCHE

Часопіс ARCHE, адзіны ў краіне «тоўсты» штомесячны недзяржаўны часопіс на беларускай мове, які рэгулярна і бесперапынна выходзіць з 1998 года, апынуўся пад пагрозай закрыцця.

Іздзе «паглыбленая» праверка гаспадарчай дзейнасці часопіса Дэпартаментам фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю. А Беларускае тэлебачанне вуснамі вядучых і карэспандэнтаў праграмы крымінальнай хронікі «Зона Х» далучылася да кампаніі шальмавання выдання. Яно заявіла, напрыклад, што ARCHE і персанальна яго былы галоўны рэдактар Булгакаў спрычыніліся да друкавання «палотнаў з прэтэнзіяй на экстрэмізм».

У той жа час добра вядома, што на старонках часопіса друкуюцца перадусім навуковыя і навукова-папулярныя тэксты беларускіх і замежных аўтараў, і канкрэтны змест выдання на працягу апошніх гадоў не выклікаў нейкіх істотных заўваг з боку Міністэрства інфармацыі.

У такой сітуацыі мы заклікаем усіх людзей добрай волі праявіць салідарнасць з ARCHE, што, у прыватнасці, можна зрабіць шляхам напісання зваротаў **на імя міністра інфармацыі А. В. Праляскоўскага (адрас: 220004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11)**.

Прыкладны змест хадайніцтва можа быць такі:

Паважаны Алег Вітольдавіч!

З праграмы беларускага тэлебачання «Зона Х» я з глыбокім засмучэннем даведаўся (лася), што разглядаецца пытанне аб скасаванні рэгістрацыі штомесячнага часопіса «ARCHE-Пачатак». Наколькі мне вядома, за апошнія гады Міністэрства інфармацыі не выносіла часопісу аніводнага папярэджання, выкліканага зместам надрукаваных у ім матэрыялаў, таму законных падстаў для ліквідацыі выдання няма. Спыненне ж выхаду часопіса несумненна стане вялікай стратай для беларускай навукі і культуры.

З павагай, (імя, прозвішча).

Таксама варта:

**— накіраваць ліст у Дэпартамент фінансавых расследаванняў з просьбай разблакаваць рахунак «ARHE-Пачатак» і даць часопісу магчымасць трапляць да чытача.**

(Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Кальварыйская, 17. Дэпартамент фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю РБ, дырэктар Дэпартамента — Вярэмка Рыгор Іванавіч.)

Абаронім беларускае!

**Паводле Baj.by**

# Мова «Белсата» добрая!

Са здзіўленнем прачытаў моўныя прэтэнзіі Наталкі Бабінай да «Белсата» (№42). І што ж мы хочам тады ад краіны і грамадства, калі гэтыя прэтэнзіі выказвае не заскарузлы супрацоўнік Інстытута моваазнаўства, не падмяты ідэалогій дыктар БТ і нават не какетлівы чыноўнік Міністэрства культуры, а — пісьменніца?!

У ліку самай першай удзячнасці «Белсату» стаіць і назаўсёды будзе залічана яго беражлівае, дакладнае, трапяткое карыстанне беларускім словам. Калі ў вёсцы ці ў школе, як на тое спасылаецца спн. Наталка, беларуская мова «не такая», то і адрасавала б яна школу і вёску да найлепшых яе ўзораў, што гучаць на незалежным тэлеканале. Менавіта там яна, мова, такая, як яе ацэньваюць у сваіх эмацыйна-лірычных, але дакладных апісаннях сапраўдныя ўлюблёныя ў мову і яшчэ не вынішчаныя канчаткова яе руплўцы: сакавітая, багатая, мяккая, глыбокая...

**Віктар Войтаў, Магілёў**

## Чаму «Прыёрбанк» не прымае беларускую мову?

Хачу паведаміць вам пра чарговы факт абмежавання па прынцыпу мовы. Я спрабаваў праз інтэрнэт замовіць картку ў «Прыёрбанку». Але пасля запаўнення адпаведнай формы на старонцы банка з'яўляецца патрабаванне, каб гэты працэс адбываўся толькі па-руску. Напісаў ім ліст з патрабаваннем выправіць сітуацыю.

Атрымаў наступны адказ на рускай мове:

«Уважаемый Всеволод Павлович! Благодарим Вас за то, что Вы вносите предложения по улучшению качества обслуживания клиентов и организации работы банка. Качественное обслуживание физических лиц — один из основных принципов работы «Приорбанк» ОАО.

Каждое обращение Клиента о работе банка тщательно анализируется с целью устранения недостатков в работе. С Вашим обращением были ознакомлены все заинтересованные подразделения банка, и предоставленная информация обязательно будет учтена при организации дальнейшей деятельности».

Вось і ўсё, а беларуская мова не з'явілася і перспектывы ў яе пашырэнні ў дадзеным банку не прагледаецца. Можа хтосьці з вашых карэспандэнтаў захоча папрацаваць з дадзенай тэмай.

**Усевалад Сіняк, Мінск**

**Фотафакт**




**Вось такія паведамленні віселі на дзвярах кожнага пакоя інтэрнатаў Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Гэта было звязана з прыездам Лукашэнкі ў ВНУ.**

## Спальваюць хаты

У Светлагорскім раёне ёсць практыка спалення пустых хат пад кантролем пажарных. Дапрыкладу, вёска Уюнішчы, Мыслаў Рог. Якія б ні былі тыя хаты — гэта гісторыя і спярша варта было б даследаваць іх на прадмет артэфактаў народнай культуры, мо памераць, зафільмаваць для гісторыі, а потым кумекаць, што рабіць. А так выходзіць чыстае варварства і вандалізм.

**Мікалай Бусел, Дуброва, народны чытака (Светлагорскі раён)**

# Беларуская глыбіня. **Ражкоўскі цуд**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Каля крыжа Ісуса стаялі Маці Ягоная, і сястра Маці Ягонай Марыя Клеопава, і Марыя Магдаліна. Ісус, убачыўшы Маці і вучня, які тут стаяў, якога любіў, кажа Маці Сваёй: Жанчына! Вось сын Твой. Евангелле паводле Лукі 19:25-26*

У нетрах Белавежскай пушчы, на адлегласці мігцення начнога маяка з Камянецкае Белае вежы, ёсць вёсачка. Вецер там заблытваецца і сціхае ў найгусцейшым вецці, хаты тонуць у туманах да комінаў, спеўныя і драпежныя птушкі робяць у небе кола, выглядваючы чалавечую выспу сярод хваляў вечнага лесу, і высакародныя алені прыходзяць на падвор'і — пяшчотнымі цёплымі вуснамі падбіраць залатыя яблыкі.

Вёсачку клічуць Ражкоўка.

У верасні 1942 савецкі самалёт скінуў тут парашутыстаўдыверсантаў. Немцы не ўпалявалі аніводнага, але ў перастрэлцы загінула двое патрульных. Парашутысты зашыліся ў пушчу — ведама, далучыліся да партызанаў (потым такія на заданне Масквы адстрэльвалі тутэйшых камандзіраў-незалежнікаў, каб падначаліць рух камуністам). А жыхароў вёсачкі сагналі разам, 57 сем'яў, і — па сотні за забітага жаўнера — павялі забіваць.

Дзяцей аддалі ў бліжэйшае мястэчка, падлеткаў і моладзь падрыхтавалі для адпраўкі чыгункай у Нямеччыну... Мужчынам загадалі капаць велізарную яму — два метры глыбіні, чатыры метры шырыні і дваццаць чатыры метры даўжыні.

Гэтая магільная яміна агаломшана зеўрае там і дагэтуль.

28 верасня 1942, развіўшы пашчу, яна ўбачыла ўсё. Расставілі кулямёты. Зачыталі загад: «За дапамогу бандытам і перахоўванне савецкага парашутыста»...

Апчэраная, гатовая скаўтнуць яшчэ цёплыя, ссечаныя кулямі целы, яна прымружылася... І раптам убачыла ў небе самалёт з нямецкімі крыжамі. Той пачаў зніжацца, зрабіў кола і прызямліўся на ўзлеску.

Ражкоўцы стаялі на краі ямы. Плакалі. Маўчалі. Маліліся...

А з самалёта вылез афіцэр, падышоў да зондэркаманды, прад'явіў там свае дакументы і папрасіў дзве гадзіны пачакаць.

Нават яме, страшнай яме два метры глыбінёй, чатыры метры шырынёй і дваццаць чатыры метры даўжынёй, за гэтыя дзве гадзіны звяло сківіцы.

Афіцэр аказаўся егерам Герынга, адкамандзіраваным для ўладкавання ўзорнай паляўнічай гаспадаркі Райха ў Белавежскай пушчы, роўна праз дзве гадзіны прывёз расстрэльнай камандзе новае распараджэнне са штаба.

І здарыўся цуд.

Вяскоўцаў распусцілі па дамах. Дзяцей і моладзь вярнулі бацькам. Толькі яму засыпаць не дазволілі: маўляў, будзеце дапамагаць партызанам — прысуд уступіць у дзеянне.

Нямецкі афіцэр прыехаў у ацалелую Ражкоўку праз два тыдні. І прывёз з сабой выразаную з дрэва выяву Мадонны, расфарбаваную сінім, чырвоным і залатым, з Дзіцём у белым. На ягоную замову паводле падрабязнага апісання скульптурку зрабіў паранены жаўнер вермахта ў шпіталі.

— Вось што я бачыў у небе, калі пралятаў над вамі, — тлумачыў немец праз перакладчыка. — Мадонна паказвала на зямлю, дзе былі вы. Калі б не Яна, я б не прызямліўся. Яна сказала мне спыніць расстрэл.

У 1943, усяго за пару тыдняў, ражкоўцы сваімі сіламі пабудавалі ў вёсцы царкву і памясцілі туды выяву Марыі. Зробленую немцам. Некананічную. З надпісам «28.9.1942».

Ужо ў 2000-х, пасля адбудовы епархіі, царкоўныя ўлады распарадзіліся напісаць адмысловы абраз, згодна з праваслаўнымі канонамі, і дзейнідзе на Палессі пачалі перайманне традыцыю: Маці Божая Ражкоўская.

Цуд відавочны. Як не паверыш? З'ездзіце, самі паслухайце, пераканайцеся: не казка. Яшчэ жывыя сведкі ды іх нашчадкі. Выява Мадонны з Маленькім у Царкве. Яма на ўскрайку вёскі. І алені ўсё гэтак жа прыходзяць па залатыя яблыкі — не баяцца людзей...

Што можа сказаць чалавек няверуючы тым, хто быў уратаваны? Галюцынацыя пілота? Збег абставінаў? Гэта ж трэба было асу Герынга ляцець рыхтык там, дзе трэба, у той час, калі трэба, і прымроіць у небе самае тое, што трэба... А як пасля палітрукі ды выкладчыкі навуковага атэізму мірыліся з Ражкоўскім цудам?

У тым і рэч, што ніяк.

У Пушчу не лазілі, у царкву не паткнуліся ды зрабілі выгляд, што нічога ў верасні 1942 у той Ражкоўцы не адбывалася.

Інакш — давялося б пагалоўна расстрэльваць тых самых ражкоўцаў як непапраўна веруючых ужо самой бязбожнай уладзе.

У Ражкоўскім цудзе ёсць нешта такое, што пераўзыходзіць і нянавісць да нацыстаў ды камуністаў, і бездань няверя, і міжканфесійныя спрэчкі.

Які праваслаўны тут адмовіцца прыняць цуд, што прайшоў праз каталіка з Люфтвафэ?.. І які пратэстант абвінаваціць лётчыка ў ідалапаклонстве?..

Мы дзівімся Віфлеемскаму агню. Мы шукаем знакаў веры, рэліквіяў і прарываў у Нязведанае ў сеціве і па ўсім свецiве.

А тут — побач...

«Першы раз такое чую».

Дык прыслухайцеся: пачуеце яшчэ і не такое.

Як бы ні было страшна ды безнадзейна, якія б магільныя ямы ні прымушалі нас рыць на гэтай зямлі, часцей падымайма вочы да неба. Няма такіх цудаў, каторых дзеля любові да людзей не зрабіў бы ў Беларусі Той, Хто нарадзіўся ў глухім кутку свету, у хляве, ад беднай Жанчыны маленькім безабаронным Дзіцём...

*Куплін*

**«Мадонна паказвала на зямлю, дзе былі вы»**

# Гісторыя Беларусі. Частка XXVI

# Дзе ўзнік Менск?

Піша **Алег Дзярновіч.**

У 1067 трыумвірат паўднёварускіх князёў Яраславічаў нанёс удар па ўладаннях Усяслава Полацкага. Першым быў разбураны Менск, што знаходзіўся на самым поўдні Полацкага княства. Далей, паводле летапісца, хаўруснікі рушылі да Нямігі, дзе адбылася бітва з Усяславам, якую той прайграў.

Гэтая фраза — «пайшоўшы да Нямігі» — хвалюе не адно пакаленне беларускіх археолагаў. Першым яшчэ ў 1930-я ўнёс сумневы ў размяшчэнне першапачатковага Менска гісторык Антон Ясінскі. Ён і сфармуляваў пастулаты канцэпцыі «перанясення горада», якія сталі базавымі ў дыскусіі пра размяшчэнне Менска:

1) Сваёй назвай Менск абавязаны назве ракі з коранем мень-; у межах сучаснага Мінска такая рака невядомая;

2) На тэрыторыі Мінска адсутнічаюць культурныя напластаванні, якія можна аднесці да перыяду летапіснай прыгадкі 1067 г.;

3) пра існаванне летапіснага Менска за межамі сучаснага Мінска ўскосна кажуць летапісы.

І аб'ект, які б адпавядаў канцэпцыі Ясінскага, быў знойдзены — гэта археалагічны комплекс на рэчцы Менка ў вярхоўях Пціча (сёння — за аўтарынкам «Малінаўка») — за 16 км на паўднёвы захад ад замчышча і Верхняга горада. Цяпер у спецыяльнай літаратуры паселішча на Менцы прынята вызначаць як прагорад. Па гэтым унікальным помніку можна меркаваць, што ўяўляў сабой прадвеснік беларускай сталіцы, як ён узнік і развіваўся на працягу X—XI стст.



**Шкляныя візантыйскія пацеркі X-XI ст., знойдзеныя падчас раскопак гарадзішча на Менцы.**

Потым у амаль сфармаваным горадзе жыццё перапынілася і больш ужо не адраджалася. Прынамсі, у форме гарадскога паселішча (у познім Сярэднявеччы на Менцы, як сведчаць археалагічныя знаходкі, была сядзіба феадала).

Археалагічныя матэрыялы паказваюць, што ў X ст. на Менцы ў густазаселенай мясцовасці існаваў цэнтр воласці, які дасягнуў росквіту ў першай палове XI ст. Памеры паселішча на водападзеле Нёмана і Прыпяці, у параўнанні з адначасовымі паселішчамі Полацкай і Тураўскай зямлі, незвычайна вялікія. Вельмі верагодна, што гэта і быў вядомы з летапісаў Менск. У другой палове XI ст. Менск на Менцы прыходзіць у заняпад. Але ў гэты час узнікае новы буйны населены пункт у іншым месцы — на рацэ Свіслач. Усе гэтыя падзеі ўкладаюцца ў летапісныя паведамленні пра знішчэнне Менска і бітву на Нямізе ў 1067 г.

Менск жа на Свіслачы, што з 1085 ці 1086 г. стаў сталіцай удзельнага княства Полацкай зямлі, таксама ўражвае як абарончы аб'ект. Яго дзядзінец дасягаў памераў 3,3 га: у XI — пачатку XII стст. толькі пяць гарадоў Усходняй Еўропы мелі ўмацаванні, роўныя ці большыя за менскія.

Большасць даследчыкаў мяркуе, што Менск у вусці Нямігі ўзнік у апошнія дзесяцігоддзі XI ст., а потым быў перанесены на Свіслач. Дыскусія, што атрымала назву праблемы «пераносу Менска», стала знакавай для беларускай археалогіі і гістарыяграфіі. Яшчэ ў 1920—1930-я «варыянт» Менкі падтрымлівалі выбітныя беларускія археолагі Ляўданскі і Каваленя, пазней гэтую версію адстойвалі Георгій Штыхаў і Юрый Заяц.

Але ўплывовая школа археолага Эдуарда Загарульскага аспрэчвае саму магчымасць пераносу старажытнага Менска з Менкі на Свіслач. Даследчык прызнае, што Менск на Свіслачы ўзнік адразу як моцны фартыфікацыйны аб'ект. Яго земляныя валы мелі ўнутраны драўляны каркас — так званыя субструкцыі. Як паказалі вынікі дэндрахраналагічнага даследавання, толькі высечка дрэва для гэтага каркаса заняла не менш за чатыры гады. А каб выкласці субструкцыю па ўсёй даўжыні вала (900 м), трэба было ссекчы 70 000 дрэваў! І адбывалася гэта, паводле Э. Загарульскага, у сярэдзіне XI ст. ці нават раней.

Дыскусія падзяліла не адно пакаленне археолагаў, і вакол яе склаўся своеасаблівы археалагічны фальклор.

Магчыма, рацыю па-свойму маюць абодва лагеры даследчыкаў. Толькі мы маем справу не з «пераносам» горада, а з перамяшчэннем цэнтра воласці і, адпаведна, назвы.

Старажытныя княствы-землі складаліся са стольнага горада (у нашым выпадку — Полацк) і воласцяў, у якіх сядзелі княскія намеснікі. Цэнтр воласці быў рэзідэнцыяй намесніка, у перакладзе на сучасныя рэаліі — нечым кшталту абласнога цэнтра. Воласці плацілі князю даніну і выстаўлялі дружыну падчас войнаў, а князь бараніў іх ад ворагаў. На дапамогу сваёй Менскай воласці ў 1067 г. Усяслаў , відаць, проста не паспеў...

Праўдападобна, старажытны цэнтр Менскай воласці знаходзіўся ўсё ж на Менцы. За гэта кажа і сама назва Менкі, што з балцкіх гаворак можа быць перакладзеная як «малая рака». Пасля ж разбурэння паселішча на Менцы цэнтр воласці быў перанесены ў ацалелае, тады яшчэ невялікае, паселішча на Свіслачы. Але воласць была ўжо вядомая як Менская, таму і новы яе цэнтр стаў таксама Менскам. Найбольш верагодным заснавальнікам Менска на Свіслачы можна лічыць полацкага князя Усяслава.

Першы помнік сечы на Нямізе быў усталяваны яшчэ ў 1867 — у 800-годдзе падзеі. Пад помнік была перароблена даўняя прыдарожная капліца, што стаяла на рагу вуліц Мясьнікова і Няміжскай да 1950-х. У савецкі час абвяшчаліся два конкурсы на помнік у памяць пра бітву. Апошні ж такі конкурс адбыўся ў 1996, і былі нават вызначаны пераможцы. Але як не сціхаюць спрэчкі пра лакалізацыю першаснага Менска, так і ўлады і грамадскасць пакуль не здолелі ўшанаваць памяць бітвы, якая дала першую прыгадку пра нашу сталіцу.

**З архіваў**

## Беларускі хрысціянскі гумар

Газета «Хрысціянская думка» выходзіла ў Вільні ў 1928—1939 гг. Яе нязменным рэдактарам быў ксёндз і выбітны інтэлектуал Адам Станкевіч.

Газета публікавала не толькі матэрыялы на рэлігійную тэму. Змяшчаліся навіны Заходняй Беларусі, СССР ды ад усяго свету: літаратура, падарожныя нататкі, карысная інфармацыя па здароўі ды гаспадарцы.

На апошняй старонцы традыцыйна друкавалася рубрыка «Жарты». Газета змяшчала анекдоты на самыя розныя тэмы. Многія з іх не адпавядаюць класічнаму разуменню «хрысціянскага зместу».

Верагодна, некаторыя з надрукаваных анекдотаў цыркулявалі ў грамадстве і вызначалі пэўныя настрої, а іншыя прыдумляліся проста ў нумар сябрамі рэдакцыі. Беларускія ксяндзы ўмелі смяяцца з сябе.

Ніжэй пададзеная падборка анекдотаў з нумароў «Хрысціянскай думкі» за 1930-я. Лацінка, на якой друкавалася газета, перададзеная сучасным кірылічным правапісам.



**Аўтар «Хрысціянскай думкі» Язэп Германовіч (Вінцук Адважны) з чытачамі з Баранавіч. Канец 1920-х. З фонду БДАМЛІМ.**

* * *

Госць падчас абеду да гаспадароў:

– Што за смачны абед, такога шчэ ніколі не еў.

На гэта сынок гаспадара:

– І мы таксама.

* * *

– Ведаеце, — кажа пан Брахоўскі пры стале ў гасцях, — жанчына можа быць нястройная і нядобрая, нявётлівая і няшчырая, але мусіць умець добра варыць. Найлепшым гэтага доказам ёсць наша гаспадыня, у якой мы сёння гасцім.

* * *

– Бачу, што табе нешта далягае.

– Так, бо мая жонка не гавора са мной ужо сем дзён. А ведаю, што калі яна гневаецца, то не гавора восем дзён. Знача, хутка пачне гаварыць…

* * *

– Калі памёр мой муж, дык і я не хачу жыць, пайду за ім!..

– Бойся Бога! Дай ты яму спакою хоць у гробе!

* * *

– Язэп, ці гэта ты выразаў з газеты артыкул "Як дажыць да ста гадоў"? — пытае жонка мужа.

–Так, даражэнькая. Бачыш, я не хацеў, каб гэны артыкул прачытала твая мама.

* * *

– Вы, па-мойму, ужо даўно здалі шафёрскія экзамены ідасталі дазвол ездзіць, але дагэтуль я вас аніразу не бачыў у аўце.

– Так, але з такім трудом здабыў сабе правa язды, што не хачу яго так хутка страціць.

* * *

Задуменны прафесар сядзіць над кнігай і задуменна адганяе надаедлівую муху. Кажа да жонкі:

– Злаві ты яе і, не робячы ёй нічога благога, выпусці за акно.

На гэта кажа яму жонка:

– Дык на дварэ дождж лье!

– Ну дык дай ёй мой парасон, — адказвае задуменны прафесар.

* * *

– Не разумею, як адзін чалавек можа зрабіць гэтульki памылак, — кажа вучыцель да вучня. — Гэта не аднаго работа, мне памагаў тата і сястра.

* * *

Вучыцель:

– Кім быў святы Павел?

Вучань:

– Не ведаю.

Вучыцель падказвае:

– Ап… Ап…

– Аптэкарам.

* * *

У рэстарацыі:

– Гэта ж вы мне падалі сапсутыя яйкі!

– Бачыце, цяпер свет такі сапсуты, што нават куры нясуць сапсутыя яйкі!

* * *

– Чаго ты прыйшоў да мяне з петухом? — пытае гадзіннікавы майстра ў селяніна.

– Можа, пан што дарадзіў бы: заўсёды пяяў а шостай, а цяпер пачаў пазніцца на паўгадзіны.

* * *

– Ідзі паглядзі, ці разнік мае цялячыя ногі?

– Хадзіла, але нічога не бачыла, бо разнік быў у ботах.

* * *

– Прыкра мне, што мая курыца улезла ў пана гарод.

– Нічога, мой сабака яе з'еў.

– Вось добра, пана сабаку я пераехаў самаходам.

**Падрыхтавала Паліна Купрысь**

## ФУТБОЛ

### Апошні тур

**Чэмпіянат краіны па футболе** скончыцца 25 лістапада матчамі:
«Нёман» (Гродна) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна), «Белшына» (Бабруйск) — «Гомель», БАТЭ (Барысаў) — «Шахцёр» (Салігорск), «Брэст» — «Славія» (Мазыр), «Нафтан» (Навапалацк) — «Мінск».

## ХАКЕЙ

### «Дынама» — «Аўтамабіліст»

**28 лістапада ў чэмпіянаце КХЛ мінскае «Дынама»** прыме «Аўтамабіліст» (Екацярынбург). Пачатак а 19-й, «Мінск-Арэна».

## ІМПРЭЗЫ

### Кастусь Тарасаў. Выбранае

**22 лістапада ў 17.30 на Сядзібе ТБМ (Румянцава, 13)** — прэзентацыя кнігі «К.Тарасаў. Выбранае». Уваход вольны.

## КАНЦЭРТЫ

### Віктар Шалкевіч

**25 лістапада ў Палацы культуры імя Шарко (Уральская, 3)** — вядомы бард і актор Віктар Шалкевіч з новымі і лепшымі песнямі. Пачатак а 19-й.

### Аліна Арлова

**Вядомая літоўская спявачка** дасць канцэрт у Мінску 23 лістапада, клуб RE:Public (Прытыцкага, 62). Білеты — 220 тысяч.

### «Без білета»

**23 лістапада ў КЗ «Мінск» (Кастрычніцкая, 5)** гурт «Без білета» прадставіць праграму «Плэй-ліст мары».

### Pomidor/Off і Green Pills

**28 лістапада 19-й у Салтайме (пр. Незалежнасці, 131/1)** — паўакустычны канцэрт гурту POMIDOR/OFF, а таксама дэнскор беларускага замесу ад гурту Green Pills.

### Хто знойдзе скарб Напалеона?

**22 лістапада а 19-й на сцэне Малой залы імя Р.Шырмы** — ансамбль «Класік-Авангард» з праграмай «Музычны скарб часоў Напалеона». «Музычны скарб часоў Напалеона» — новая канцэртная праграма калектыву і як заўсёды новыя адкрыцці. Новыя імёны і творы-прысвячэнні Напалеону Банапарту, прысвячэнні ад Л.Керубіні, Дж. Паізіела, М.К.Агінскага…

### Даўніна і сучаснасць

**28 лістапада а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — канцэрт «Даўніна і сучаснасць». Прагучаць творы М.К.Агінскага, Я.Голанда, М.Радзівіла і іншых.

## ВЫСТАВЫ

### Фэст кнігі

**Да 2 снежня ў Палацы мастацтваў (Казлова, 3)** працуе рэспубліканская мастацкая выстава «Фэст кнігі». На выставе прадстаўленыя звыш 100 ілюстрацыяў да кніг, выкананыя А.Кашкурэвічам, Г.Паплаўскім, Е.Лось, М.Баса-лыгай, М.Селешчуком, У.Савічам і іншымі майстрамі.

### Паваенны Мінск у карцінах Анатолія Наліваева

**Ад 20 лістапада да 6 студзеня ў Доме-музеі I з'езда РСДРП** працуе выстава «Паваенны Мінск у карцінах Анатолія Наліваева». У 1941 г. Анатолій Наліваеў з дзяцінства меў фатаграфічную памяць і ўжо з 14 гадоў таемна маляваў разбураны вайной Мінск (у 1940—1950-я гады фатаграфаваць і маляваць сталіцу Беларусі было забаронена).

### Элегіі

**У гарадской мастацкай галерэі твораў Л.Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49)** працуе выстава акварэляў Барыса Аракчэева «Элегіі». Праверыць, ці супадае вызначэнне назвы выставы з яе рэальным зместам, можна да 24 лістапада.

### Марк Шагал



**Да 28 студзеня 2013 у Мастацкім музеі (Леніна, 20) працуе выстава «Марк Шагал: жыццё і каханне»** з калекцыі Музея Ізраіля (Іерусалім). На выставе прадстаўленыя кніжныя ілюстрацыі мастака, якія адлюстроўваюць шматграннасць асобы майстра.

### Вынікі сезона 2011—2012

**У Музеі гісторыі беларускага кіно (Свярдлова, 4) да 30 лістапада** працуе выстава беларускіх мастакоўсцэнографаў «Вынікі сезона 2011—2012». На выставе будуць паказаныя эскізы і макеты 10 аўтараў да спектакляў рэспубліканскіх і абласных тэатраў.

## ТЭАТРЫ

### 22 лістапада

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 23 лістапада

**Лялек** — «Дзяды»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Юнага гледача** — «Міхалава зямля»

### 24 лістапада

**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

### 25 лістапада

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Лялек** — «Жахлівы пан Ау»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»

### 27 лістапада

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Оперы і балета** — «Хаваншчына»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»

### 28 лістапада

**Оперы і балета** — «Вечар сучаснага балета»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 29 лістапада

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»




### «Крама» святкуе 21-годдзе

**28 лістапада.** Клуб «Гудвін» (пр.Незалежнасці, 19). Пачатак а 20:00.




Беларуская прэм'ера праекта адбудзецца 22, 24 і 25 лістапада. Сучасныя беларускія выканаўцы выступяць у якасці тапёраў і агучаць першыя беларускія нямыя кінастужкі, знятыя ў 20-х гадах мінулага стагоддзя.
**22 лістапада а 19-й у Loft cafe (П. Броўкі, 22)** — Сяргей Пукст і «Кастусь Каліноўскі», **у 20.30** — Re1ikt і «У агні народжаная».
**24 лістапада а 18-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — адкрыццё выставы афішаў беларускага нямога кіно 20-х, **а 19-й** — эксклюзіўны канцэртны сэт Ilo&friends (Беласток): упершыню ў Беларусі!
**25 лістапада а 19-й у Loft cafe (вул. П. Броўкі, 22)** — Ilo&friends і «Прастытутка», **у 20.20** — электрычны канцэрт Ilo&friends: прэзентацыя альбома «Сланечнікі».

## КІНО

### Завоблачная талерантнасць

**Воблачны атлас** (Cloud Atlas)
ЗША — Нямеччына — Ганконг — Сінгапур, 2012, 172 хв.
**Рэжысёры:** Эндзі Вачоўскі, Лана Вачоўскі, Том Тыквер
**Ролі выконваюць:** Том Гэнкс, Голі Бэры, Джым Броўдбэнт, Г'юга Увінг, Джым Сцёрджэс
**Жанр:** драма, фантастыка
**Адзнака:** 6 (з 10)

Усё звязанае з усім: небаракарэдактар спрабуе ўцячы з дома састарэлых, белы адвакат выратоўвае мурына ад рабства, робат-жанчына ачольвае паўстанне, юнак сутыкаецца са злосным музыкам, апошнія людзі пакідаюць Зямлю, журналістка выкрывае атамных махінацыі. Калектыўная стужка Вачоўскіх і Тома Тыквера — шэсць гісторый, пераплеценых кармай, свабодай і барацьбою за талерантнасць. Паветраныя спецэфекты вайны рабатэсы за свабоду, стылізаваная міжваенная Англія (як дэкарацыі да гей-меладрамы), постапакаліптычныя пейзажы і гонкі на аўтамабілях навыперадкі з забойцам змяняюць адно аднаго.

Камедыя, меладрама, фантастыка — у трохгадзіннай стужцы ўсё. Фільм не губляе цэласнасці, хаця напрыканцы становіцца нуднаватым. Нягледзячы на жывыя характары сучасных герояў, карціна — дыетычная талерантнасць, разлічаная не столькі на людзей, колькі на робатаў.

**Андрэй Расінскі**



# Топ-15 бізнэс-ідэй для Беларусі

**Патэнцыйныя мільянеры прадставілі інвестарам свае праекты: лекі для сабак, праграмы для смартфонаў і рыбныя снэкі.**

Дзень стартапаў — адно з мерапрыемстваў Беларускага інвестыцыйнага форуму. Падчас яго 15 маладых беларускіх бізнэсоўцаў прадставілі аўдыторыі свае праекты і паспрабавалі знайсці інвестараў. Дзяржава, у сваю чаргу, паабяцала конкурсантам гранты памерам $30 тысяч.

Стартап — гэта нядаўна створаная кампанія, якая будуе свой бізнес на аснове інавацыйных тэхналогій, мае недахоп рэсурсаў і шукае інвестара, якому зазвычай гатовая прапанаваць 25—50% сваіх акцый.

Такім чынам, 15 перспектыўных ідэй беларускіх винаходнікаў.

### 1. iMeterege — вымяральнік адлегласцяў з дапамогай мабільніка

Павел Шылёнак і Віталь Нікуленка ўжо стварылі модуль, які дазволіць вымяраць адлегласць да аб'екта праз смартфон. Для гэтага да тэлефона трэба падлучыць ультрагукавы далямер з лазернай падсветкай. Пасля аб'ект фатаграфуецца, і на яго выяве з'яўляюцца вынікі вымярэнняў.

Каму спатрэбіцца праграма? Стваральнікі разлічваюць, што яе будуць выкарыстоўваць рыэлтары і будаўнікі. Дакладнасць вымярэння складзе 5-6 міліметраў.

### 2. Малахія — аптэка з дэфіцытнымі лекамі

Два пакаленні (бацька і сын) Уладзіміраў Малахавых прапануюць стварыць навуковa-вытворчую аптэку «Малахія», якая будзе спецыялізавацца на дробнасерыйным выпуску дарагіх і дэфіцытных прэпаратаў, у прыватнасці, лекаў ад раку.

Прадпрыемства будзе адпавядаць стандарту GMP, які дазволіць экспартаваць гэтую паслугу замежным фармацэўтычным вытворцам.

Патрэбныя інвестыцыі — $4,6 мільёна.

### 3. SpryBoard — экраны з рэкламай у крамах

Ідэя Паўла Мазуркевіча заключаецца ў стварэнні рэкламна-інфармацыйных электронных цэннікаў.

Ён прапануе размяшчаць рэкламную інфармацыю на экранах у гіпермаркеце. Зарабляць мяркуецца на кантэкставай рэкламе вытворцаў. $40 тысяч у праект ужо ўкладзена. Экраны стаяць у крамах «Ома» і «Юбілейны-92». Але патрэбна яшчэ $240 тысяч.

### 4. Say-n-ride — пошук спадарожніка на дарозе

З дапамогай гэтай праграмы аўтамабілісты змогуць знайсці спадарожнікаў.

Патэнцыйны пасажыр пакідае на спецыяльным серверы платную галасавую аб'яву, дзе яе можа праслухаць кіроўца. Калі ім ехаць у адным кірунку, чаму б не рушыць разам і не падзяліць выдаткі на паліва?

Працаваць у Беларусі стваральнікі пакуль не збіраюцца. А вось для таго, каб пачаць працу на рынку Чыкага, Аляксею Іванчыкаву і Ягору Вецеру патрэбна $3 мільёны. Праз пару гадоў яны разлічваюць зарабіць $180 мільёнаў.

### 5. Maesens — інтэрактыўная дабрачыннасць

Сайт «Маесэнс» ужо паспяхова працуе ў інтэрнэце і мае больш 35 тысяч карыстальнікаў. Цяпер аўтарка ідэі Алеся Абраменка хоча раскруціцца на амерыканскім рынку пад назвай Goodwillion. Нагадаем, што кожны ахвотны можа выставіць на аўкцыён сустрэчу з сабой. 80% атрыманых грошай ідуць на дабрачыннасць, а рэшта — на падтрыманне праекта.




Такія падлікі можна будзе зрабіць з дапамогай мабільніка

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН




Стваральнікаў SellerHit узнагародзілі як самую сладжаную каманду.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН




«Маесэнс» заваяваў беларускі рынак і выходзіць за мяжу.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Інвестыцыі — а гэта парадку $300 тысяч — патрэбныя на маштабную рэкламу ў ЗША і Расіі.

### 6. SellerHit — вылічальнік аптымальнай цаны

Прадпрымальнікам, якія прадаюць тавары і паслугі на гандлёвых пляцоўках у інтэрнэце, перадусім на сэрвісе Amazon, Раман Бугаёў прапануе сваю дапамогу.

Ягоны сэрвіс аўтаматычна вылічыць аптымальную цану ў залежнасці ад дзеянняў канкурэнтаў. У наступным месяцы сэрвіс запрацуе ў Германіі. Заснавальнікам патрэбныя не грошы, а партнёры ў ЗША і Кітаі.

### 7. Мая рыбка — снэкі з айчыннай рыбы

Беларускім спажыўцам не хапае снэкаў з айчыннай рыбы, перакананыя Эдуард Бондар і Уладзімір Масейкоў. На рынку хапае прапановы ад замежных вытворцаў, а вось беларуская рыба не выкарыстоўваецца. Каб запусціць вытворчасць закускі да піва, ім патрэбна $1,5 мільёна інвестыцый. У перспектыве запланаваны выхад на расійскі і ўкраінскі рынкі.

### 8. Фермерская гаспадарка — гадоўля в'етнамскіх свінняў

Дзмітрый Радзюк прапануе пабудаваць ферму магутнасцю 1400 галоваў для гадоўлі в'етнамскіх свінняў.

Іх перавага — у далікатэсным мясе з паніжаным утрыманнем халестэрыну. Для арганізацыі вытворчасці Дзмітрый Радзюк плануе атрымаць $210 тысяч. Прадаючы сваю экалагічна чыстую прадукцыю, ён мяркуе акупіць іх за 3,5 года.

### 9. Прэпарат для лячэння раку

Навуковец Дзмітрый Рудакоў перакананы, што ягоная ідэя выпуску прэпарату для борнейтроназахопнай тэрапіі раку ўратуе тысячы хворых. Пакуль што атрыманае рэчыва праходзіць выпрабаванні на жывёлах.

### 10. Ветэрынарныя прэпараты для сабак

Фармацэўтыкай займаецца і Уладзімір Пракулевіч. Ён прапануе прэпарат «ФаніФерон» для прафілактыкі і лекавання разнастайных захворванняў у сабак — атытаў, дэрматытаў, пнеўманіі...

У аснове прэпарату — спецыяльны аналаг інтэрферону. У перспектыве можна распрацоўваць і лекі для катоў. Для старту праекта патрэбна $3 мільёны інвестыцый.

**Што яшчэ?**

**11. Флама (аўтар праекта — Дзмітрый Губар).** Вытворчасць газагенератарнага абсталявання. Патрэбна $720 тысяч.

**12. ТурбаСфера (Кірыла Ляўкоў).** Перапрацоўка цеплавых адкідаў у энергію ў мікратурбіне. Патрэбна $3 мільёны.

**13. Перапрацоўка шын (Аляксандр Палееў).** Будаўніцтва завода па перапрацоўцы аўтамабільных шын у тэрмаэластапласты. Патрэбна каля $1,6 мільёна.

**14. Клеткавыя тэхналогіі (Ганна Буценка).** Вытворчасць клеткавых прадуктаў для лячэння дэфектаў скуры. Патрэбна каля $600 тысяч.

**15. Плазмамет (Сяргей Багаеў).** Стварэнне вытворча-кансалтынгавай кампаніі ў галіне фізіка-хімічных метадаў апрацоўкі металу. Патрэбна каля $205 тысяч.

**Ягор Марціновіч**

## Сцісла

### Мядзведзеў падарыць экс-прэзідэнту Фінляндыі кацяня



Прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў напісаў у сваім фэйсбуку, што ў былой прэзідэнткі Фінляндыі Тар'і Халанен памерла любімая котка. Мядзведзеў паабяцаў падарыць свайго выхаванца, фотка прыкладаецца.

### Новая паслуга ад аэрапорта

«Мінск-2» пачаў аказваць анлайн-паслугу па візавай падтрымцы і браніраванні атэляў. Пакуль сэрвіс арыентаваны на расейскамоўных карыстальнікаў.

### У Беларусі з'явіцца аналаг «911»

Можа з'явіцца адзіная дзяржаўная служба рэагавання на паведамленні аб надзвычайных сітуацыях і здарэннях. Пакуль прапануецца нумар 112.

### Самы дарагі дамен

Як паведамілі ў кампаніі hoster.by, якая выступае арганізатарам аўкцыёну, самым дарагім даменам у гісторыі Байнэту стаў дамен casino.by. Ён быў прададзены за 250 мільёнаў рублёў (каля $30 тысяч).

**ЛМ**




**Супрацоўнікі МНС працягваюць выманне з зямлі сотняў бочак, якія змяшчаюць невыкарыстоўваныя з пачатку 1970-х небяспечныя для здароўя пестыцыды. Работы праводзяцца ў ваколіцах вёскі Новая Варта Слонімскага раёна. На тэрыторыі плошчай 0,85 гектара размешчаны 4 могільнікі, у якіх захоўваецца каля 900 тон небяспечных рэчываў. Хімікаты са старых металічных бочак перагружаюць у пластыкавыя і рыхтуюць для адпраўкі ў Германію, дзе на адмысловым прадпрыемстве іх перапрацавалі.**




**Студэнтай года Беларусі стала курсантка Гомельскага інстытута МНС Ксенія Шынгірэй.**



**Генерал-губернатар: Косінец адзеў вайсковую форму. 13–14 лістапада ў Віцебску генерал Косінец праводзіў вайсковыя зборы. Ён сабраў больш за 70 чалавек.**



**Зборная Чэхіі выйграла Кубак Дэвіса па тэнісе. У фінале яны перамаглі Іспанію — 3:2.**

## Анекдоты

* * *

Салідарнасць па-беларуску — гэта калі ўсе разам церпяць.

* * *

Дзве бабулькі ля пад'езда абмяркоўваюць прахожых:

— Глядзі, Дамінікаўна, вунь ідзе хлопец і сам з сабой размаўляе. Як маркуеш, гэта каноплі ці Bluetooth?

* * *

Дырэктар ЦРУ Пэтрэус сышоў у адстаўку зусім не праз каханку, а таму, што ў Наваполацку праваліўся ягоны суперагент-слесар.

* * *

У «Белсаюздруку».

— А дайце мне вось гэты ружовы пухнаты аловак і налепкі з пакемонамі!

— А 18 ёсць?

— Так.

— Дык нахалеру яно табе?

* * *

Кладуся спаць — цёмна. Прачынаюся — цёмна. Іду на працу — цёмна. Вяртаюся дамоў — цёмна... А яны спрабуюць пераканаць мяне, што ў нас не палярная ноч!

* * *

Перавёў тэлефон у рэжым самалёта, кінуў у акно... Не паляцеў, падробка кітайская!

* * *

Новым мікрааўтобусам, якія будуць выпускацца ў Магілёве, дадуць назву «Магілабусы».

* * *

Раней я жыў адзін, і ўсе мае рэчы валяліся на сваіх месцах. Цяпер у мяне з'явілася дзяўчына, і ўсе мае рэчы акуратна і прыгожа ляжаць невядома дзе.

* * *

Кожная жанчына мае права сама вырашаць, колькі ёй гадоў.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мінск.** Горад хоча цяпер выкупіць конку за 312 500 рублёў і правесці электрычны трамвай, а каналізацыю адкласці на далей. Старажылы маракаюць, што гораду пільней патрэбна каналізацыя, чым трамвай.

**«НН». №46. 1912.**

**Кіраўніку Беларусі** і сямі ягоным міністрам забаронена з'яўляцца ў Еўропе. З Лукашэнкам пачалі размаўляць ягонай жа мовай, без эківокаў. Толькі Партугалія, што знаходзіцца ад Беларусі найдалей, дабілася права не далучацца да супольнага рашэння.

**«НН». №43. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 20.11.2012.
Замова №5092.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 12043